# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

N 5



ЖАНЧЫНА—ШОФЭР

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (раманы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 |

ЦАНА ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ 40 к.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

10 САКАВІКА 1930
N 5
АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 79.



**БАТРАЧКІ НА ЗЬЕЗЬДЗЕ**
(1-шы ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД БАТРАЦКА-БЯДНЯЦКІХ ГРУП)

Фото Ў. СЕМЯНЯНІ.




Апавяданьне ТАРАСА ГУШЧЫ

Малюнкі Я. Ахрэмчыка

I

„Ліквідаваць банду Дубіны!"

І гэта ўжо ня першая тэлеграма з цэнтру.

Хвалюецца і нават злуецца начальнік раённай міліцыі т. Т—і. Проста крыўдна. Як гэта яму, адданаму бальшавіку, прайшоўшаму пекла і агонь імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, ніяк не ўдаецца вылавіць банду, ня гледзячы на ўсе яго самыя рашучыя меры і на ўсё гарачае імкненьне ліквідаваць разбойніцкую шайку? Лёгка паслаць тэлеграму, але вось папробуй злаві, ліквідуй! А тут яшчэ гэты шум! Нагналі коннай міліцыі з другіх раёнаў, прыслалі вайсковыя часьці, і ўсё-ж Дубіны злавіць ня могуць. Мазырскія лясы вялікія, ёсьць дзе схавацца бандытам. Глухіх закавулкаў процьма, і ўсе яны маюць сувязь з Дубінаю, папераджаюць яго, памагаюць. Усё гэта вельмі добра ведае т. Т—і. Яго бярэ сумненьне, што пры такім стане рэчаў злавіць Дубіну вельмі цяжка, а значная колькасьць народу, міліцыі і войска толькі ўскладняе справу, бо кожны рух такой масы людзей ня можа схавацца ад зоркага вока Дубіны. І калі была склікана шырокая нарада ў справе ліквідацыі банды, то т. Т—і вельмі крытычна аднёсься да розных хітра сплеценых проектаў і плянаў, што высуваліся тут тымі ці іншымі таварышамі. Ён маўчаў, слухаў ды толькі пакручваў доўгія вусы.

— Усё гэта добра, і усе вашы пляны добрыя,—сказаў нарэшце т. Т—і;—толькі вось што трэба сказаць: з такою масаю народу злавіць яго трудна. Не забывайце, што ў яго дасканала наладжана ўсюды сувязь, і разьведка яго пастаўлена, як лепей ня трэба. Вось ужо колькі часу валаводзімся з ім, марнуем людзей, самі марнуемся, а толку няма... Таварышы, мой плян вось які: вывесьці адгэтуль войска і міліцыю. Мне-ж дайце пяць дзён часу: я адзін бяруся ўзяць Дубіну, мёртвага ці жывога!

Жарты гэта ці сур'ёзныя словы?

Не! т. Т—і ў такіх выпадках не жартуе. Што ён чалавек адважны і сьмелы, ведаюць усе. І тое, што паказалася вар'яцтвам у першую хвіліну, было прынята, як мера спайманьня страшнага атамана банды. У помач т. Т—му быў астаўлен супрацоўнік ДПУ, хоць т. Т—і і не прасіў аб гэтым.

II

Калі памочнік т. Т—га даведаўся, які яго плян, то вельмі скэптычна аднёсься да яго.

— Сам ты ідзеш на верную пагібель, і мяне туды цягнеш,—заўважыў ён.

— Ну, што-ж? рызыка!—суха прамовіў Т—і і паглядзеў на свайго памочніка. Потым, падумаўшы, дадаў:

— Покі што табе тут няма чаго рабіць.

І аддаў яму прыказ—адвезьці пакет начальніку міліцыі суседняга раёну.

— Вернешся і будзеш чакаць мяне ў Н. Покі-ж я цябе не паклічу, сам не паказвайся тут.

Сказаць яму проста, што ён у памочнікі не гадзіцца, было нязручна.

Вечарам таго-ж дня прыходзіць Т—і на хутар. Ён ведае гаспадара гэтага хутара. Ведае таксама, што ён мае дачыненьне да шайкі Дубіны. А хутар глухі. Навокал цёмны лес і хмызьняк ды злыя сабакі на хутарскім двары.

— Хачу пагаварыць з табою, грамадзянін Яворскі!

Яворскі—гаспадар, мужчына сярэдніх гадоў, праныра, хітрун і чалавек няшчыры.

— Вось што, Яворскі,—пачаў Т—і, калі яны асталіся ў сьвятліцы адзін на адзін:—даволі нам гуляць у хованкі!..

Выбірай адно з трох: або ты мяне заб'еш, або я цябе заб'ю, або ты паможаш мне ўзяць Дубіну. Даю пяць мінут падумаць.

Глянуў Яворскі ў вочы Т—му, момант падумаў і кажа:

— Ну добра. Згодзен памагаць!

— Толькі-ж памятай, што калі ты мяне выдасі Дубіне, то ні ад цябе, ні ад твайго хутару не астанецца і сьледу.

Яворскі яшчэ момант падумаў: ужо цьвёрда сказаў:

— Будзь пэвен і вер мне.

— Буду верыць... Так будзе лепш і табе і мне, бо цягнуцца табе да Дубіны няма сэнсу—дні яго зьлічаны, так ці іначай. А цяпер давай прыступім да справы. Перш за ўсё, як мяркуеш ты, калі ў цябе можа быць Дубіна?

Яворскі ўздрыгнуў, але ніводзін мускул на твары ня выдаў яго хваляваньня.

— Сказаць акуратна, у які дзень ён можа тут быць, не магу. Можа заўтра, можа пасьлязаўтра. Трудна сказаць.

— А колькі іх можа тут быць?

Яворскі ўскінуў плечы.

— Таксама ня ведаю, але калі будзе, то будзе ў кампаніі.

— Дык вось што, брат. Нікому ні слова. А бабу сваю і дзяцей, і парабка выправі вон з хутара. Астанься толькі сам. І толькі рабі так, каб ня было ніякага падазрэньня... З лямпы вылі ўсю газу, каб ня было чаго запаліць. Калі прыдуць, засьвеціш на комінку, каб у хаце было цемнавата. Стол пастаў насупраць дзьвярэй гэтай сьвятліцы, каб праз замок я мог бачыць, што робіцца ў хаце. А з Дубінаю ты павітайся так, каб я яго ведаў—пацалуйся з ім, ці як.

— Я скажу: „Здароў, брат Дубіна!"—сказаў Яворскі—і даўжэй патрымаю яго руку.

— Добра,—згадзіўся Т—і і ў заключэньне сказаў:

— Загатуй самагону, каб за пустым сталом не сядзелі, ды вяровак прыпасі.

— А міліцыю хто паведаміць і дзе яна будзе?—запытаў Яворскі.

— Аб гэтым не клапаціся: як толькі прыдзе сюды Дубіна з бандаю, то ўжо з хаты ён ня выдзе.

На гэтым і кончылася нарада з Яворскім.

Перад тым, як пайсьці на хутар, т. Т—і напісаў дзьве паперкі да начальніка міліцыі суседняга раёну. У аднэй напісаў:

— Дарагі таварыш!

Калі мяне заб'юць, то перашлі гэты пакецік па начальству. Калі-ж астануся жывы, то вернеш яго мне.

У закрытым пакеце была яго заява, дзе ён прасіў сваё начальства не пакінуць без дапамогі яго жонку.



— Даю пяць мінут падумаць...

III

На хутары пуста і глуха. Толькі дзьве чалавечыя душы асталіся на ім: т. Т—і і сам гаспадар. Трэці дзень сядзіць т. Т—і, ня выходзячы за парог дому. Яворскі каля гаспадаркі тупае, зрэдка заходзячы ў хату, перакінецца словам, другім з т. Т—ім. І чорт-жа яго ведае, што за мысьлі тоіць у сабе гэты чалавек, бандыт напалавіну!

Можа ён ужо перагаварыўся з атаманам банды? І так і гэтак мяркуе т. Т—і. Здрадзіць Яворскі, і ўсё прапала, ён апыніцца, як мыш у мышалоўцы. Ён аглядае карабін, мацней паціскае яго ў руках: на яго цяпер уся

надзея. І соп не бярэ яго. Сядзіць і ходзіць па сьвятліцы, углядаецца ў цьму за акном, варожую і зацятую ў сваёй немаце. Нэрвы нацягнуты да апошняй мяжы.

Настала чацьвертая ноч.

— Сьпі,—гаворыць Яворскі,—сабакі ў мяне чуткія і злыя—абудзяць, калі што.

Сказаў і сам лёг на печ, не разьдзяючыся. Заснуў ён ці не заснуў, але раптам забрахалі сабакі, кінуліся ў бок лесу. Яворскі ўзьняў галаву, паслухаў момант і ціха сказаў:

— Здаецца ідуць!—і пасьпешна злазіць з печы. Аддалены брэх сабак становіцца што раз чутней. Ясна—брэшуць на людзей, праводзячы іх у двор.

Яворскі падышоў да акна.

— Яны!—хваляваньне, трывога і страх былі ў тоне яго голасу.

Моцна забілася сэрца ў грудзёх у т. Т—га. Мінута сапраўды страшная!

Яшчэ момант, і з двара хтось з бандытаў пастукаў у вакно.

— Дома?—пачуўся адтуль голас.

— Дома!—адказаў Яворскі і пайшоў адамкнуць дзьверы.

„Ведаюць яны ці ня ведаюць?“ — верціцца балючае пытаньне ў мазгох т. Т—га. Ён увесь застыў каля замочнай дзірачкі, ловячы кожны рух і кожнае слова.

Скрыпнулі дзьверы ў сенях, а потым і ў хаце, і зараз-жа многа пар ног гучна затухкала на падлозе.

Успыхнуў агонь на камінку і вылучыў у цемры бандыцкія постаці.

Было іх тут шэсьць чалавек. Паставілі ў качэргах абрэзы, а самі расплыліся па хаце.

— Сядайце-ж, браткі!—запрашае іх Яворскі,—а дзе-ж бацька?

— Ідзе, ідзе!

І зараз-жа парог пераступіла фігура самога атамана.

— Здароў, брат Дубіна! — і Яворскі доўга паціскае атаманаву руку.

Гэта быў чарнявы, высокі і надзвычайна складны мужчына гадоў пад трыццаць, унцер-афіцэр царскай арміі. Дубіна быстра акінуў вачыма Яворскага.

— Што гэта так цёмна ў цябе?

— Да вось вышла газа...

— А дзе твая баба?

— Да родных пайшла пагасьцяваць.



— Ні з месца!..

Дубіна яшчэ раз ускінуў выразныя вочы на гаспадара, як-бы чытаючы яго затоеныя мысьлі.

— Што ты, брат, нешта сам ня свой?

— А нічога. Проста трохі не даспаў, трохі натупаўся за дзень.

— Ну, то давай закусім чаго.

— Есьці ёсьць. І самагон прыпасены добры.

Бандыты паселі за стол, дзе зараз-жа паявіўся самагон, сала, хлеб і іншая закуска.

Як толькі шклянка абышла першы круг, дзьверы з сьвятліцы расчыніліся з рэзкім скрыпам і стукам. Т. Т—і, як бура вылецеў з карабінам у руках.

— Ні з месца... Міліцыя! па тры чалавекі да акон!—зычна падаў каманду Т—і і ў той-жа момант выпаліў у Дубіну. Дубіна пасьпеў яшчэ выхапіць кольта і выстраліць. Куля стукнулася ў падлогу, чуць зачапіўшы падэшву на боце Т—га. Сам-жа атаман упаў, забіты на павал.

— Лажыся!—крыкнуў т. Т—і бандытам.

Перапалоханыя насьмерць бандыты, страціўшы свайго атамана, пакідаліся, як бараны на падлогу і іх тут-жа перавязалі. А калі яны прыйшлі да памяці, то адзін з іх запытаў:

— А што-ж гэта твае міліцыі ня відаць? Дзе яна?

— Вось яна, я!—горда пастукаў сябе ў грудзі т. Т—і.

— Ты адзін?..

— Адзін!

— Ах, сукін-жа ты сын! Каб-жа мы гэта ведалі, мы разарвалі-б цябе на кавалкі.

— Позна цяпер шкадаваць аб гэтым.

IV

Самы малады з шайкі бандытаў быў Пятрусь Клімко. Было яму гадоў дзевятнаццаць, ня болей. Яго і выбраў т. Т—і для допросу.

— Вось што, брат: ты яшчэ зусім малады, можаш паправіць сваю памылку і ў значнай меры выкупіць сваю віну. Скажы, дзе рэшта з вашай кампаніі і дзе хаваецца нарабленае вамі дабро? Прызнаешся, на судзе палёгка будзе.

— Дзядзечка, усё скажу, што ведаю. Зьбілі з дарогі мяне, дурня. Даруйце мне!—захадзіўся дзяцюк і выдаў усе сакрэты свае банды.

У тую-ж ноч прыбыў на хутар атрад міліцыі, схованы непадалёку ў засадзе. Забітага Дубіну і павязаных бандытаў забралі пад конвоем.

Т—і паслаў тэлеграму вылучанаму штабу ў справе ліквідацыі Дубінінай банды. Тэлеграма была такога зьместу:

„Задзержана часьць банды. Дубіна забіты. Т—і“.

Тэлеграма гэта была пярэдана так: „Задзержана часьць банды Дубіны. Забіты Т—і“.

Прачытаўшы такую тэлеграму, штаб сьпешным парадкам падняў на ногі людзей і рушыў на месца ўсіх гэтых падзей.

А Т—і, узяўшы міліцыянэраў, духам паімчаўся на глухі хутар, куды паказаў Клімко. І ён не абмануў: на гэтым хутары начавала яшчэ шэсьць бандытаў. Так іх сонных тут і пабралі. А потым завярнулі яшчэ на адзін хутар, дзе хаваліся награбленыя бандытамі рэчы. Восемнаццаць падвод наладавалі награбленым дабром. А назаўтра пад моцным конвоем міліцыі на чале з т. Т—ім забіты Дубіна і ўся яго банда з дванаццаці чалавек і восемнаццаць хурманак, наладаваных награбленым дабром, накіравалася ў П. На палавіне дарогі сустрэліся з цэлым атрадам міліцыянэраў і чырвоноармейцаў на чале з іх штабам. І як зьдзівіліся яны ўбачыўшы папэрадзе свайго экскорта т. Т—га вярхом на кані.

— Хіба ты жывы?!

— А што?—зьдзівіўся Т—і.

— Да мы атрымалі тэлеграму, што Т—і забіты!

Непаразуменьне выясьнілася.

Т—га шумна віншавалі, абнімалі і моцна ціснулі руку.

*Увага ад аўтара*. Гэты расказ запісаны са слоў самога героя, т. Т—га, з якім аўтару давялося сустрэцца ў паездцы на Асінбуд вясною 1929 г. Пятрусь Клімко—прозьвішча выдуманае. Яворскі—перайначанае.

Т. Г.

# КОЛГАС

**Міхась Кальчуга**

Скача сталёвы конь,
Поля руйнуе межы,
Ніва шуміць навакол
Дні залатыя мярэжыць.

Праца крынічыць нас
Дзіўна і радасна гэтак,
Сёньня ўзрастае колгас,—
Новы будуе палетак.

Песьні і гоман людзей
Вольныя думкі кранаюць,
Зьзяе вясёлкавы дзень
Кветкай чырвонага мая.

Як-жа сягоньня ня жыць?
Сэрца ня чуе болі...
Бач—на зялёнай мяжы
Скачуць сталёвыя коні.

# З попелу АДРОДЖАНАЯ

**Нарыс Г. Ругера**

Змоўклі стрэлы гармат Сэдану, якія вырашылі лёс Францускае імпэрыі Напалеона Бонапарта. Імпэратар Францыі Напалеон трэці разам з усёй сваёй арміяй у палоне ў ворага, кагорты якога хутка прасоўваюцца па францускай зямлі—да яе сэрца—Парыжу.

Нямецкая армія „жалезнага канцлера" Бісмарка окупавала палову Францыі, абкружыла з усіх бакоў Парыж, жалезным колам адрэзала яго ад усяго сьвету.

І 18-га кастрычніка, і 31-га кастрычніка, і нават 22 студзеня 1871 году—у дні паўстаньняў пролетарыят Парыжу хістаецца, не бярэ ўсяе поўнае ўлады ў свае рукі.

Гэтым ён вырашае трагічны лёс Парыскае Комуны, гэтымі сваімі хістаньнямі ён дачасна падпісвае ёй сьмяротны прысуд. Бо калі можна было павесьці за сабой увесь францускі пролетарыят і большую частку сялянства ў дні, калі яшчэ мір ня быў падпісаны, калі знадворны вораг яшчэ грозна стаяў каля варот абкружанай ім сталіцы—пасьля падпісаньня гэтага, хоць і дужа цяжкага, міру буржуазіяй, гэта было ўжо куды цяжэй зрабіць.

Буржуазны міністр, кіраўнік ураду, жорсткі карлік Т'ер быў больш дальнавідны, як парыскія рэволюцыянэры. Ён падпісвае мір з нямецкімі капіталістымі і адначасна просіць у Бісмарка дапамогі нямецкімі штыхамі, каб прыдушыць „мяцежную парыскую чэрнь".

Нямецкае войска застаецца каля сьцен Парыжу. Адзіны фронт сусьветнае буржуазіі супроць пролетарыяту быў адноўлены.

* * *

Тымчасам у рабочых кварталах Парыжу—у Бэльвілі, у Кордэры, на Монмарце нарастала рэволюцыйная хваля, організаваліся рабочыя саюзы, гаварыліся палкія прамовы.

Організаваўся Цэнтральны Камітэт, утварылася па раёнах нацыянальная гвардыя, якая злучыла вялікі лік рабочых Парыжу і яго ваколіц.

А чатыраста гармат, застаўленых буржуазным урадам Т'ера на плошчы Ваграм у поўнае распараджэньне немцаў, якія ўжо ўвайшлі ў Парыж, былі на сваіх плячох вывезены парыскімі пролетарыямі ў свае кватэры, былі пастаўлены на вышыні Шомона, Бэльвіля, у парк Монсо і на Вогескую плошчу.

Тады Т'ер 17-га сакавіка 1871 году загадвае сваім генэралам атакаваць рэгулярнай арміяй вышыні Монмарта, Шомона і Бэльвіля, абазброіць францускі пролетарыят.

Але... 88-мы пяхотны полк падымае прыклады сваіх вінтовак угару і пераходзіць на бок паўстаўнцаў. Салдаты арыштоўваюць генэралаў Клемаг Тома і Леконта і затым расстрэльваюць іх. Таксама робіць і шэраг іншых пяхотных палкоў.

Наступленьне буржуазіі адбіта пролетарыятам. Рабочая кляса захавала свае гарматы.

Становішча робіцца надзвычайна сур'ёзным. Рэволюцыйныя ідэі пачынаюць праходзіць у казармы, пачынаюць захапляць салдат.

І тады Т'ер загадвае войску, міністрам і чыноўнікам пакінуць Парыж, пераехаць у Вэрсаль, пакінуць сталіцу Францыі на волю лёсу ў руках „мяцежнае чэрні".

— Мы выходзім, каб вярнуцца,—казаў Т'ер сваім прыяцелям.—Паводаль ад Парыжу мы рэарганізуем нашу армію, каб потым у крыві затапіць рэволюцыйны пажар. Т'ер і тут быў больш дальнавідны за парыскіх рэволюцыянэраў. Ён дакладна выканаў пасьля сваю страшную крывавую пагрозу.

А парыскі пролетарыят з прычыны адсутнасьці цьвёрдага рэволюцыйнага кіраўніцтва, з прычыны адсутнасьці ў яго жалезнае комуністычнае партыі—парыскі пролетарыят ізноў зрабіў памылку, якая вырашыла лёс будучай комуны.

Замест таго, каб напасьці на зьбянтэжанага ворага, замест таго, каб потым са зброяю ў руках разьбіць яго і ў Парыжы, і ў Вэрсалі, замест таго, каб потым ударыць і на ворага знадворнага—парыскі пролетарыят дазволіў Т'еру вывесьці ўсё сваё войска з Парыжу, дазволіў вольна выехаць у Вэрсаль усім т'еравым міністрам, чыноўнікам, генэралам...

18 сакавіка 1871 году ўраньні Парыж са зьдзіўленьнем даведаўся, што горад вольны ад урадавага войска, што ўся ўлада ў горадзе перайшла да парыскіх пролетараў.

Гэта быў першы дзень Парыскае Камуны.

* * *

Адрэзаны Парыж падвойнай сьцяной ад знадворнага сьвету: штыхамі прусакоў і штыхамі арміі вэрсальцаў. Ліхаманкава працуе Т'ер над рэорганізацыяй сваёй арміі, над тым, каб пераканаць яе ў ненавісьці да комунараў.

— Кіраўнікі комуны—злачынцы, забойцы, бандыты,— пішуць па загадам Т'ера, крычаць на ўвесь сьвет буржуазныя газэты.—Парыскі народ чакае не дачакаецца вызваленьня яго ад улады гэтых тыранаў, ён з радасьцю сустрэне ў Парыжы нашу „армію парадку".

Ці ня добра знаёма нам гэтая пропаганда? Ці не таксама, ці ня ў тых самых выразах пісалі пра Савецкі Саюз буржуазныя газэты ўсяго сьвету ў 1918-1919 годзе.

А тымчасам Парыская Комуна працавала. З прычыны ня доўгага свайго існаваньня комунарам давялося толькі намеціць шляхі рэформ, толькі ў самым асноўным падыйсьці да іх правядзеньня ў жыцьцё. Але і тое, што было зроблена комунарамі за 72 дні іхнае ўлады над Парыжам, заслугоўвае зьдзіўленьня, заслугоўвае пашаны.

Няма чыноўнікаў, няма міністраў з вялізнаю пэнсіяй, з прывілеямі. Усе атрымліваюць аднолькавую з рабочымі пэнсію, кожны грамадзянін Комуны павінен па выбары ўмець выконваць уселякія грамадзкія абавязкі. Шмат і іншых рэформ у галіне працы, народнае асьветы, юстыцыі было намечана комунай — рэформ, якія перабудоўвалі ўсе ўзаемаадносіны старога сьвету, рэформ, якія адкрывалі працоўным масам Францыі соцыялістычныя гарызонты.

І не зважаючы на тое, што Парыская Комуна адрэзана ад усяго сьвету, весткі пра яе рэформы праходзяць у провінцыю і знаходзяць там сваіх гарачых пасьлядоўнікаў. У Ліоне, Марсэлі, Нарбоне, Тулузе і ў радзе іншых гарадоў рабочыя падымаюцца для змаганьня, там льлецца кроў, там высока падымаецца ў пролетарскіх руках чырвоны сьцяг.

* * *

Тымчасам падрыхтоўка да першае атакі Парыжу скончана... І 3-га красавіка 1871 году, на досьвітку вэрсальскае войска, войска „вяскоўцаў" пад камандай вопытных генэралаў, армія ў 40.000 чалавек выступіла ў паход на чырвоны Парыж.

Сумна, не зважаючы на геройскае супраціўленьне, не зважаючы на тысячы геройскіх учынкаў—сумна скончылася для комунараў гэтая першая вылазка рэакцыянэраў.

Захоплены галоўныя форты Парыжу захоплена шмат палонных, якіх вэрсальскія генэралы загадвалі адразу-ж расстрэльваць на месцы.

Але Комуна ня трапіла яшчэ на гэты раз у рукі вэрсальскіх катаў. Дзякуючы выключнай самаахвярнасьці яе абаронцаў, хоць і з вялікімі стратамі, але ўдалося адстаяць Парыж ад вэрсальскіх генэралаў.

І ўсё-такі, ня гледзячы на тое, што комунарам удалося яшчэ пратрымацца



**Удзельнік Парыскае Комуны Анры Фурхад (гэтай зімою памёр у Масхве ў Крэмлёўскай больніцы).**

каля двох месяцаў — дні чырвонага Парыжу былі зьлічаны, 15 мая пачынаецца лютая бомбардыроўка Парыжу вэрсальскай артылерыяй, 21 мая, дзякуючы здрадзе Жюль Дзюкатэля, вэрсальцы ўрываюцца ў бастыён № 64 і пачынаюць паволі прабівацца ў Парыж.

А праз два дні іх ужо каля 50.000 у Парыжы. Бойкі ідуць на яго вуліцах, горад увесь у барыкадах, горад у агні.

Стойка, адважна змагаюцца комунары, крывёю сваёй яны шчыра паліваюць парыскія вуліцы. Мужчыны, жанчыны, нават пролетарскія дзеці спаборнічаюць паміж сабой у героізьме, у самаахвярнасьці.

Паў Монмарт, паў Шомон, паў Бельвіль. Палае Тульерыйскі палац—каралеўскае гняздо рэакцыі і абсолютызму, палае міністэрства фінансаў і іншыя будынкі. Парыж тоне ў хмарах полымя і едкага дыму, які густымі слупамі ўзьнімаецца ўгару.

— Расстрэльвайце палонных! Нікога ня мілуйце!—крычаць азьвярэлыя вэрсальцы. І яны забіваюць усіх, хто трапляе ім у рукі. Забіваюць жанчын, старых, дзяцей.

А 28 мая 1871 году пала канчаткова Парыская Комуна. Надышоў апошні акт крывавай драмы.

* * *

Крывавы тыдзень—так назваў народ тыя сем дзён крывавай расправы з насельніцтвам Парыжу, што прышлі ўсьлед за падзеньнем Парыскай Комуны.

Людзей расстрэльвалі бяз суду, бяз сьледзтва. Расстрэльвалі часта толькі за тое, што ў яго рукі ў мазалёх, што ў яго выгляд, які нагадвае пролетара. Горы трупаў валяліся ва ўсіх частках Парыжу. Гэтыя трупы гнілі і разносілі заразу. Тады іх палілі, а на месцы іх расьлі новыя горы расстрэленых.

Гісторыкі налічваюць звыш трыццаці тысяч расстрэленых. І гэтыя лічбы хутчэй зьменшаныя, чым павялічаныя.

Другія тысячы пайшлі на катаргу—у Гвіяну, у Новую Каледонію. Шмат тысяч памёрла ў турмах Вэрсаля і Саторы.

Крывавы карлік Т'ер мог быць здаволены пладом рук сваіх.

— Зямля ўсеяна іх трупамі; гэта жахлівае відовішча няхай будзе навукаю!—паведаміў ён у провінцыю сваім прэфэктам.

І навука гэта не забыта пролетарамі.

. . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . .

Так, не забыта. Прайшло амаль пяць дзесяткаў год і з попелу Парыскай Комуны нарадзілася другая комуна—Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

Комунары 1917 году ўзялі пад увагу памылкі сваіх старэйшых братоў-комунараў 1871 году. Узялі пад увагу і не паўтарылі іх.

І мы цьвёрда верым, што неўзабаве той час, калі і над Парыжам ізноў горда ўзьнімецца чырвоны сьцяг, калі Парыская Комуна, разгромленая, але не пераможаная, працягне пачатую ёю 59 гадоў назад вялікую працу.

Мы верым.

Гэта будзе.



# ПАРЫСКАЯ КОМУНА

Урывак з поэмы УЛАДЫСЛАВА БРОНЕЎСКАГА

Мал. М. Краўчанка

Чуючы, губы затні да крыві аж,
Голаў ня зьвешвай ніжай.
Вось вам аповесьць аб днёх тых
апошніх
Комуны места Парыжу.

I

Бубны, ўсё бубны ноччу вурчэлі,
Покуль ня глянула раніца здрадай.
Грымнулі ў месьце першыя стрэлы,
Сталі, як мур, барыкады.

Брамы здабыты, ўзяты і форты,
Сьмерць ужо блізка,
З вуліцы кожнай, нібы з аорты
Кроў палілася парыская.

Але Комуна так не паддасца,
Сьмяецца з сьмерці і кары!
Парыж гняўлівы, кінь вокліч грозны:
„Да зброі, комунары!

Да зброі, народзе рабочы,
Дзеці, кабеты і хлопцы!
Па вуліцах кроў цячэ рэчкай,
Сягоньня крыві яшчэ хопіць!

Покуль іх бандаў рынецца плойма,
Покуль на трупах нашых хто стане,
На барыкады Комуна,
Да зброі, грамадзяне!“

II

Чырвоных з прадмесьцяў адпхнулі,
За імі ўсьлед, сьвецячы стальлю,
Па вуліцах цесных Монмарту
Зближаецца войска з Вэрсалю.
І там, дзе ў марцы казьнілі
Генэралаў Томаса з Лякомтам,
Палкоўнік з паднятаю шабляй
Надскочыў і крыкнуў прад фронтам:

„Жаўнеры! Нам вынішчыць трэба
Скот гэты! Палонных тож рэзаць!“
Жаўнеры паслушныя сьлепа
Стаўляюць да муру па дзесяць.

Трашчаць глуха залпы за мура :
І кроў пад нагамі плюскоча;
Панурыя твары жаўнераў,
Іх кэпі спаўзаюць на вочы.

III

На магілках Пэр - Ляшэз цьвітуць
каштаны,
Маем пахне трава здратаваная,
У траве ляжаць трупы расстрэляных
„У імя працы, парадку і права“.

Генэрал Галіфэ, аддавай загады,
Хай жаўнерам ад люф гарэць рукі!
Ну, па сорак! Па дзьвесьце адразу!
Тысяч пяць! Дзесяць тысяч! На мукі!

Генэрал Галіфэ, за расстрэлы
Удзячнасьць Францыі будзе й мэдалі!
Генэрал Галіфэ, у крыві твае боты!
Генэрал Галіфэ, ты падлей ад шакаля!

На магілках Пэр-Ляшэз зьвечарэла,
Мур бялее у змроку агідай;
Не травы гэта пах—гэта кроў пах-
не сьвежа,
І ня магілкі гэта, а крэпасьць прывідаў.

IV

Вогнішчам сьвеціцца ночка,
Гняце, як каменьне,
Хмарамі па-над Комунай
Вісіць паражэньне.

Ня многа ўжо засталося
І барыкад і надзеі.
„На сьмерць, грамадзяне,
Пайдзем пакалеі!“

Дамброўскі згінуў ад кулі,
Паў Рауль Рыго пад сьценкай,
На скрыжаваньнях вуліц
Па сто расстрэльвалі цэльна.

Бярэ свалата верх над людам,
Крывёю кормяцца шчыра
Паны, ксяндзы, генэралы,
Жандары, банкіры.

Па помсту над паўшым Парыжам
Ідзе ўжо зграя злых катаў
Са штыхам, золатам, крыжам
Праз грудзі пролетар'яту.

Але Парыж ўмее згінуць
Комуна ня дасца прыгону!
Свабода, жыці ты будзеш,
Струмень твой чырвоны...

Вольны пераклад з польскае мовы

**Я. Купалы.**

# У ТЫЯ ДНІ

Нарыс Г. РУГЕРА

**Холадна ў акопах!**—гэтыя плякаты пярэсьцяць у трамваях, на сьценах дамоў, на платох, на ліхтарных слупох.

Халодна і галодна ў акопах. Ужо тры гады як ідзе гэта непатрэбная ні рабочым, ні сялянам вайна. Ужо тры гады як адны сотнямі, тысячамі, дзесяткамі і сотнямі тысяч гінуць на фронце, у той час як іншыя—маленькая купка нажывае дзесяткі і сотні мільёнаў на ваенных пастаўках.

Холадна ў акопах. Усё больш і больш сумныя весткі прыходзяць з фронту ў глыбокі тыл. Кругом здрада. Няма зброі, няма баявых прыпасаў. Армія змучана, армія адступае, армія ня можа болей ваяваць.

Катуюць салдат розгамі, саджаюць у турмы, расстрэльваюць... Наперад, наперад. Банкірам і дастаўшчыкам патрэбны яшчэ мільённыя прыбыткі... Мілюкову—пратокі... Мікалаю крываваму годнасьць „вялікага". Наперад да „пераможнага канца"!

І ў глыбокім тыле ня лепей. Сялянства галадае. яно абабрана вайной. яно зьнясілена падаткамі. Галадаюць ужо і гарады. Чарга за чаргою стаяць ля пустых крам. хлеба не хапае, мануфактуры, мяса... Ядуць ужо каніну, церпяць нужду, недаядаюць.

О! Канечна —не багатыя, не банкіры, не дастаўшчыкі. Для іх яшчэ грыміць музыка ў шантанах, ракой льлецца шампанскае, для іх усяго ўдосталь.

Галадаюць рабочыя, бедны люд, сяляне... Наперад да „пераможнага канца"!

Чорныя хмары згусьціліся над расійскай імпэрыяй. Надышоў тысяча дзевяцьсот семнаццаты год.

* * *

На афіцэрскіх сходах запасных гвардзейскіх палкоў, разьмешчаных у Петраградзе, неспакойна. Над кіраўніцтвам палкавых камандзіраў кожны дзень адбываюцца паседжаньні афіцэраў, распрацоўваюцца пляны прыдушэньня „непарадкаў", падзяляецца горад на раёны.

Паліцыя Пратапопава таксама рыхтуецца. Абучаюць паліцэйскіх, ставяць кулямёты на дахах дамоў і на царкоўных званіцах.

А ў казармах як быццам спакойна... Але гэта зацішак перад бурай, зацішак перад грозным штормам. Там, у глыбіні салдацкіх мас ліхаманкава б'ецца рэволюцыйная думка, ліхаманкава сьпее рэволюцыйнае права.

Нездаволены і іншыя клясы грамадзкасьці...

Дробнае дваранства, буржуазія, гандлярства, земства, інтэлігенцыя. Падгніўшы ў канец монархічны лад дажывае свае апошнія дні.



Адрачэньне цара Мікалая.

*(З карціны невядомага мастака).*

* * *

27-га лютага. Хвалюющца рабочыя кварталы. З сьцягамі і лёзунгамі праходзяць дэмонстрацыі. Растуць там і тут вулічныя барыкады.

— Далоў цара і здраднікаў міністраў! Няхай жыве констытуцыя, рэспубліка!

А з глыбінь рабочых і салдацкіх мас чуюцца ўжо іншыя крыкі:

— Далоў вайну! Далоў капіталістых! Вайна вайне!

У царскіх стаўленікаў ёсьць яшчэ сіла для прыдушэньня „непарадкаў". У іх у руках армія, гарматы, кулямёты.

Вядомы сродак. Пры іх дапамозе цар „дзякаваў свой народ" у крывавую нядзелю 9-га студзеня, з іхнай дапамогаю ў струменях крыві была задушана рэволюцыя 1905-га году.

Але... часы мяняюцца, мяняюцца і людзі. Запасны валынскі полк пераходзіць на бок паўстаўшага народу, іншыя палкі адмаўляюцца страляць у дэмонстрантаў.

Дні монархіі зьлічаны... Рэволюцыя перамагла.

* * *

Лётае, кідаецца, як нейкая здань, царскі цягнік ад станцыі да станцыі. Усё сумнейшыя весткі прыходзяць з Петраграду.

Рабочыя і салдаты вышлі ўзброенымі на вуліцы. Яны патрабуюць, каб „гасудар-імпэратар" зрокся прастолу. Яны патрабуюць сабе волі, патрабуюць міру, патрабуюць канца імпэрыялістычнай вайны.

Атрад „георгіеўскіх кавалераў", пасланы ў Петраград, каб уціхамірыць бунтаўнікоў, пераходзіць на бок паўстаўшых рабочых і салдат петраградзкага гарнізону. У арміі таксама неспакойна, на армію таксама надзея малая.

Лётае імпэратарскі цягнік паміж стаўкай вышэйшага галоўна-камандуючага і Петраградам... А дэлегаты дзяржаўнай думы на чале з Гучковым вязуць ужо адрачэньне цару.

Трэцяга сакавіка 1917 году ня стала „гасудара-імпэратара". улада выпала з рук дому Романавых, улада перайшла ў рукі дзяржаўнай думы, у рукі буржуазіі і міністраў.

— Усім усім, усім,—тэлеграфуе Мілюкоў,—тады міністар замежных спраў,—за мяжу.— Монархія пала, але часовы ўрад прызнае даўгі замежных дзяржаў, ён будзе весьці вайну да „пераможнага канца".

Так думала, так вырашала буржуазія. Ёй патрэбна была спагада і дапамога замежных капіталістых. Яна, узяўшы ўладу ў свае рукі, не хацела перадаваць гэту ўладу нікому, яна інстынк-



**Лютаўская рэвалюцыя на Беларусі. Мітынг у в. Жодзіна (Смалявіцкі раён, Меншчына).**

тыўна баялася рабочых, баялася ўсяго таго, што зьвязана з выбухам гранат, з барыкадамі на вуліцах, з клясавым змаганьнем пролетарыяту.

Але ня так думалі расійскія, беларускія і украінскія рабочыя. Ня так вырашалі яны.

Хвалюецца мора галоў, мора плякатаў, мора чырвоных сьцягаў. Масамі ідуць да Таўрычаскага палацу дэмонстранты.

— Няхай жыве часовы ўрад! Далоў імпэратара! Далоў вайну!

Гукі францускай марсэльезы—гімну буржуазных рэволюцый—напаўняюць сакавікоўскае паветра.

Дэмонстранты з чырвонымі істужкамі ідуць ідуць, ідуць...

А ў гэты час з балькону палацу Кшэсінскай імкне ў рабочыя масы інакшы голас. Ён заклікае рабочую клясу да грамадзянскай вайны, да нізрынуцьця часовага ўраду, да змаганьня, да змаганьня, да змаганьня.

Грыміць інтэрнацыянал. Ірдзеюць там і тут чырвоныя сьцягі, сапраўдныя рэволюцыйныя лёзунгі:

„Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!"

* * *

Адзін за адным, як цені, мільгаюць буржуа-міністры. Мілюкоў і Гучкоў, Львоў і Пераверзеў, крыклівы Керанскі. Керанскі глаўкаверх і міністр шматлікіх портфэляў, Керанскі театральных выбры аў, Керанскі траскуючых сказаў і напышанай слоўнай траляніны.

— Вайна да пераможнага канца... Плацім даўгі саюзьнікам...

Батальён сьмерці...

Батальён гонару...

Наперад, наперад, на ворага!

А вораг не наперадзе, а тутака-ж—побач. Вораг—памешчык, які застаўся ў сваім маёнтку, вораг—фабрыкант, вораг—рэакцыйныя афіцэры і генэралы.

І ворагі—заклятыя ворагі рабочай клясы, міністры—буржуі Мілюковы, Гучковы, Керанскія.

* * *

Пракацілася хваля буржуазнай рэволюцыі.
А з ёю ішла ўжо іншая, пролетарская хваля, ішоў Чырвоны Кастрычнік.



**Дазорныя аўтамабілі сьцерагуць Петраград (1917 г.).**

# КАМЕРА 158

Апавяданьне ЖАНА ТУССЭЛЯ. Малюнкі ПАЎЛОЎСКАГА.

Яна была яшчэ больш прыкрай, як казарма, больш халоднай, больш панурай, яшчэ больш яскравай яе нікчэмнасьць, больш душыла яе вялізарнасьць. Яна абражала палі, што раскінуліся вакол, яна брудзіла блакіт неба, яна труціла добрае і сьвежае паветра, зялёную прастору, сьпевы галасістых птушак.

**Жорж Эккоўд.**



Горла яго сьціскалася, і аднойчы старшы застаў яго ў такой позе: ён сядзеў абапёршыся падбародкам на край маленькага стала, блуклівым поглядам глядзеў паверх глухіх сьцен сваёй камеры, паверх агарожы гароду і заводаў.

Ніколя Плянкэ скончыў мыцца. Ужо дзесяць дзён, як дані- мае яго катар, і кожнае раніцы ён мочыць дзьве свае насавыя хусьцінкі і потым удзень сушыць іх пры трубе вадзянога апалу. Ён сядзеў у астрозе ўжо шэсьць месяцаў. Камера 158 зрабілася яго кватэрай,—чатыры шэрыя сьцены—небасхілам. Ён таптаў свае драпавыя пантоплі, мераючы пяць крокаў ад дзьвярэй і назад. Гэта складала чатырохсотую частку агульнага фасаду будынку, які выходзіў сваімі мутнымі вокнамі на турэмны двор. Ён павінен быў тут адседзець свой тэрмін. Яшчэ засталося сядзець яму пяцьсот сорак сем дзён.

Ён забіў у часе сваркі ў вечар „прабачэньня". Ён быў выпіўшы, і ў сумятні, збаламучаны натоўпам людзей, ён так няўдала ткнуў сваім нажом, што загубіў чалавека. І хоць мінуло ўжо шэсьць месяцаў, але ён быў яшчэ нібы аглушаны гэтым здарэньнем. Яно раскалола яго жыцьцё на часткі. У камеры яно было зусім другім: ён ясна памятаў усё мінулае да забойства.

Але папярэдняя турэмная адсідка, у часе якой маленькі шавец дрыжэў, чакаючы вялікай бястэрміновай кары, сьмерць мацеры з прычыны вялікай згрызоты па ганьбе сына, турэмны ўціск, вясковы сьпеў, той, што ён насьпеўваў пад нос, забіваючы цьвікі ў падэшву, партыя ў карты ў суботу з панамаром, пэнсыянэр, старшыня, знаёмы яловец, захад сонца за лесам, палкія ўспаміны аб каханай, злосная хлусьня адвоката на судзе, а галоўным чынам нагляднік з трэцяга аддзелу, які біў яго кожны тыдзень,—усё гэта перамяшалася ў галаве Ніколя Плянкэ, і ён зрабіўся панурым, па-рабскаму пакорным, з абвіслымі рукамі і заўсёды халоднымі вачыма.

Калі ад'ютант прапанаваў яму работу, ён спачатку адмовіўся. Зьняволеныя рабілі мяшэчкі з паперы, адсейвалі тытун і каву, сталярылі; была нават свая кузьня, і спатрэбіўся-б шавец, каб латаць боты шпітальным і зьняволеным.

І надзея атрымаць дазвол курыць у камеры, вялізнае жаданьне мець зноў малаток, цьвікі, шавецкі нож, варыць клей, набіваць падэшвы і сьпяваць тую-ж песьню, што і на волі, спакусілі яго; за яго вырашылі тутун, пах скуры і варка клею.

У першыя дні работы ён нібы аджыў, але зноў ён зрабіўся панурым, калі нагляднік з трэцяга аддзелу забараніў яму сьпяваць. Рытм яго працы быў парушан і праца ня клеілася.

Ніколя Плянкэ не мармытаў больш.

Ne parles pas, Rose, je supplie,
Car me trahir serait un grand péché [1])



... Яго сэрца не цягнула да работы...

* * *

Значыцца, гэтай раніцай шавец разьвесіў свае насавыя хустачкі на радыятары вадзянога апалу. Пасьля непакойнай, немарачнай ночы, пасьля сноў, якія мае права бачыць толькі вольны чалавек, яго сэрца не цягнула да работы. Нехта падышоў, глянуў у вочка дзьверы, і яна цяжка расчынілася. Гэта прышоў турэмшчык з трэцяга аддзелу, з агіднай галавой бязрогага быка і рухлівымі рыжымі бровамі.

— Ты не працуеш?—запытаў ён, забаўляючыся вялікімі ключамі і аглядаючы камеру.

— Ці ня думаеш ты, што цябе будуць карміць тут дарма, абібок ты гэтакі!

Маленькі чалавек паблядгеў ад такой абразы.

— Ты не атрымаеш стравы ў поўдзень. Ага?.. вось у чым справа, ты мыеш бялізну замест таго, каб займацца сваімі справамі. Пан забаўляецца. Замест супу вось табе, гультай...

І ён бухнуў зьняволенаму сваім кулаком у левае вуха.

Ніколя Плянкэ схапіў свой крывы шавецкі нож і ўсадзіў яго ў жывот візіцёра, павярнуў яго, адным узмахам распароў жывот, а потым глянуў ў твар звар'яцеламу нагляднiку. Апошні цяжка дыхаў закінуўшы галаву, сьціснуў зьбялеўшыя губы і, пасьпеўшы толькі крыкнуць „ох", выпусьціў ключ. Ён схапіў сваімі рукамі жывот, з якога цякла кроў, нібы для таго, каб утрымаць нутро, і пасунуўся назад. Потым, абапёршыся аб цынкавае карыта, локцем расчыніў дзьверы і зьнік. Шавец мімавольна зашчапіў іх на замок.

Енкі параненага гучна разносіліся па турме. Кішкі выкінуліся, нібы з вялізарнай грыжы, але брудныя і парваныя.

Кроў цякла доўгім струменем з балькону другога паверху аж да галоўнага калідору. Зьбегліся турэмшчыкі, але паранены ўжо змоўк.

* * *

Зарыпела фортка і адчынілася. Ніколя Плянкэ апамятаўся і, махаючы нажом, крычаў:

„Я перарэжу глотку першаму, хто зойдзе ў камеру".

Ён чуў, як гутарылі пра тое, як-бы забіць яго, але потым да яго даляцеў прыдушаны голас: „Трэба ўзяць яго жывым".

Фортка зачынілася, і поўгадзіны ён слухаў, сьціскаючы моцна нож у руцэ, як прыходзілі і адыходзілі людзі, як шапацелі яны каля камеры.

Час раздачы ежы надышоў, цяпер ніхто ўжо ня цікавіўся ім. Ён сеў на зэдлік і ўста-

1) Не гаварэце мне, Роза, я ўпрашаю,
Бо здрадзіць мне было-б вялікім грахом...

віў вочы ў фортачку. Раптам яна адчынілася і з глыбіні калідору чыйсьці незнаёмы голас сказаў:

— Плянкэ, здайся!

Ён ізноў крыкнуў:

— Перарэжу глотку першаму, хто зойдзе ў камеру!

Да вечара ён падсьцерагаў пробліскі сьвятла ў фортцы. Ад голаду падвяло жывот; ён жаваў кавалачак скуры. Зразумеў, што яго хочуць замарыць голадам.

Так ён заставаўся на зэдліку пакуль не сьцямнела. Было жудасна ў цемры. Ён пачаў хадзіць, прыслухоўваўся, ні аб чым ня думаў і мармытаў вясковую песьню.

Але зноў расчынілася фортка і ў калідоры пачуўся голас наглядніка.

— Плянкэ, здайся!

Ён ізноў паўтарыў тыя-ж словы:

— Я перарэжу горла першаму, хто зойдзе ў камеру!

Старшы крыкнуў і асьвятліў дзірку.

— Здайся альбо я заб'ю цябе як сабаку.

Выскаленыя зубы—былі адказам. Фортка зноў зачынілася і Плянкэ зноў застаўся ў цемры. Рука, што сьціскала стальны нож—балела. Ён сеў, але вуха было ўвесь час насцярожы. Голад абцугамі сьціскаў галаву. Ён нібы заснуў, але раптам падняўся, нож выпаў з яго здрантвелай рукі, зазьвінеў і стукнуўся аб каменную падлогу. Ён закрычаў і ліхаманкава пачаў шукаць у цемры сваю зброю. Ізноў пачаў хадзіць па камеры.

На другі дзень асада камеры пачалася зноў. Калі зноў запрапанавалі яму здацца, Плянкэ нават не адказаў, а плюнуў у фортку. Смага мучыла яго. Кубак і жбанок былі пустымі.

У поўдзень нагляднік убачыў праз фортку, што ён сядзеў на парашы і трымаў у руцэ нож.

Надышоў час вячэры. Адчынілі фортку і казытлівы прывабны пах напоўніў камеру. Пачало ванітаваць ад голаду. Пачало трэсьці і зьявіўся брэд: вось ён у сваёй вёсцы есьць белы хлеб, зайца з сушанымі сьлівкамі, п'е сьветлае з пенай піва. Гутарыць з суседзямі.

— Як жывеш, Плянкэ?

— Вельмі добра, як бачыце. Карова панамара ацялілася. Гэта ты маці? Вымый маю шыйную хустку, заўтра, здаецца, будзе холадна. Вашы боты гатовы, пане кюрэ [1]).

— Добра, Плянкэ. Хочаце вы ўзнагароды?

— Суп з цыбуляй... і да яго (ён пачаў шумна сьмяяцца) адна добрая чарка, адна добрая чарка! Эх...

Ён варочаўся, сьціскаў рукі, апраўляў вопратку, ішоў на работу.

Адчынілася фортка.

— Плянкэ, здавайся.

Ён кінуў у адчыненую фортку малаток, малаток з грукатам упаў на падлогу. Чалавек сьмяяўся над няўдачай, і фортка зноў зачынілася.

Ён пачаў жаваць кавалак скуры, але сьліны больш ня было. Яму вельмі хацелася піць, піць... У паднябеньні балеў язычок, нібы падвешаны быў цяжкі груз. Ён насцаражыўся, пачалася нейкая валэнданіна ля яго дзьвярэй. Каб набрацца храбрасьці, ён пачаў сьпяваць, але ня меў сілы варушыць языком.

Ізноў здань: ён есьць ракушкі, хлеб з маслам, п'е квас.

Гэта-ж мары? Я крыху спазьніўся. Але мы памірымся.

Раптоўна фортка адчынілася, і Плянкэ проста ў твар лінуўся струмень вады. На некалькі хвілін яго аглушыла, але ён апомніўся, калі яго аблілі другі раз. Ён хацеў набраць вады ў працягнутую прыгаршню.

Гэта ўдалося толькі ў трэці раз, і ён напіўся як трэба. Струмень ліўся бесьперапынку. Стукаючы зубамі, ён мітусіўся па камеры, але вада знаходзіла яго ўсюды. Нехта вадзіў лямпай, нібы ліхтаром, па чатырох сьценах,—ганяліся за яго ценьню. Ён перавярнуў свой стол, ложак і схаваўся за тонкі матрац, але лямпа знайшла яго, і вада зноў заліла яго плечы. Струмень ударыўся аб саламяны матрац: ён выратаваўся. Але вось у замку зарыпеў ключ; ён падняўся з нажом у руках і зноў прыняў душ.

У яго зьявілася добрая думка: схапіць матрац і прыціснуць яго да форткі. Надышла трывожная хвіліна перапынку; раптоўна ён пачуў, як нешта вострае рэзала матрас і ён выпусьціў яго з рук і схапіў нож. Вада струменіла яму ўвесь час на галаву. І калі яна дайшла яму да ладыжак, ён зразумеў, што яго хочуць патапіць. Тады ён пачаў крычаць; струмень захляснуў яму глотку і здавалася, што ён ня крычыць, а палошча глотку. Струмень перапыніўся.

— Плянкэ, здайся!

Ён пачаў лаяцца, але вада задушыла яго лаянку. Не выпускаючы нажа, ён асьцярожна, нібы паралізаванай рукой агаліў да поясу сваё цела; было холадна ад мокрай адзежы. Пракляты душ малатком біў яму ў лоб, у шчокі, у вочы, у чэрап, у плечы. Плянкэ стагнаў, схіляўся, выпростваўся, сьлізгаўся, падаў на калені. У замку зарыпеў ключ, ён падняўся. Вада паднялася; відаць, у дзьверы затынкавалі ўсе дзіркі. Вадзяны струмень муціў розум. Паверх зэдліку, які ён трымаў перад сабой, лілася вада і на яго плечы і на галаву.

— Плянкэ, здавайся!

— К чорту!

Ён схапіў кавалак скуры і пачаў грызьці і смакаваць яго як сьцярвятнік. Яго нож паліў цяпер яго далоні. Рукі не маглі больш трымаць зэдлік каля галавы. Пакутаваў ён да раніцы. У галаве стукала, з рукі, што трымала нож, цякла кроў. Ён скурчыўся на стале, крыху прыкрываючы свой твар каленам. Ён прабаваў усё, што магчыма ў цемры. Камера ўжо да паловы была поўна вады. Пякельная гульня з вадзяным струменем скончылася.

Зноў тое-ж самае патрабаваньне, на якое ён ужо не адказваў і— фортка зачынілася. Ён чуў, як раздавалі хлеб і каву, чуў, як ляскалі форткі. Ён ужо ня думаў ні аб чым, ён адчуваў, што падае ў ваду і толькі час-ад-часу выцягваў зьнямеўшыя члены. Ён чуў, як наглядінкі ішлі ў турэмную царкву.



— Перарэжу глотку першаму, хто зойдзе ў камеру!..

Навакол усё ўсплыло: дошкі, кардонная скрынка, ручнік, правілы, што сабраў ён у час свайго д'ябальскага танцу, дзьве калодкі, кудзеля, драўляныя цьвічкі, лісты брата і эвангельле, перададзенае яму турэмным ксяндзом.

У царкве гралі арганы. Апошняя здань з мінулага... страсянула яго струменем сьлёз. Ён пачаў размаўляць сам з сабой.

— Маці, слухай, маці, я буду гатоў... боты гатовы... Я спазьніўся. Мары...

Ён сьмяяўся скурчыўшыся на ложку. Раптам яго апанавала боязьнь вады. Ён замёр. Фортка адчынілася.

— Там... Там...—мармытаў ён і абедзьвюма рукамі нажом перарэзаў сабе горла.

Адчыніліся дзьверы, вада вырвалася наружу, выносячы ўсё, што плавала па ёй, але гукі арганаў яшчэ дайшлі да паміраючага. Сьцякаючы крывёю, ён сканаў над сваім шавецкім столікам. Ён прахрыпеў яшчэ два словы, якіх ніхто ня чуў.

Аўтарызаваны пераклад з францускага

Зьм. Белы.

1) Каталіцкі сьвяшчэньнік у Францыі.

# СІЛАМІ РАБОЧАГА









1921 г. Голад. Холад. Разруха. Няма дзе дастаць сыравіны для прамысловасьці, Віцебскі СНГ загадвае: панчошную майстэрню зачыніць. Рабочыя адказалі: майстэрню не зачынім, працу ня кінем. Бяз пэнсіі, бяз грошай будзем, але майстэрня будзе жыць.

Свайго дамагліся. За восем год майстэрня вырасла ў вялікую фабрыку, якая ўвабрала ў свае карпусы больш паўтары тысяч рабочых. Кожны дзень фабрыка імя Клары Цэткін бярэ з біржы новых і новых работніц, якія па меры навучаньня пераходзяць на самастойную работу. Работніцы, якія раней працавалі на 4 варстаты, зараз працуюць на 12 і больш варстатаў.

Вытворчасьць фабрыкі характарызуецца высокай якасьцю; прадукцыя разыходзіцца далёка за межы БССР і дае

# КОЛЕКТЫВУ









штогод сотні тысяч рублёў прыбытку, якія галоўным чынам ідуць на новае капітальнае будаўніцтва. Для вязальнага цэху пабудаваны новы корпус. Таксама прыстасаваны пад фабрычны корпус будынак гарадзкога лёмбарду. Устаноўлены стосільны дызэль, які ўзбагаціў энэргетычную базу фабрыкі. Усе гэтыя мерапрыемствы стварылі магчымасьць павялічыць вытворчасьць фабрыкі ў 6—8 раз.

На прыбыткі фабрыкі імя Клары Цэткін зараз у Віцебску будуецца новая панчошная фабрыка, на якой будзе працаваць 5000 работніц.

На здымку, зьлева направа на версе: 1) прасавальны цэх, 2) рухавік фабрыкі, 3) аўтаматы, якія самі робяць панчохі; унізе, зьлева направа: 4) фармавальны цэх, 5) гатовы цэх, 6) сшывальны цэх.

# 1 ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

БУДУЕЦЦА выстаўка і будзе адчынена яна ў жніўні 1930 г. Так пастанавілі—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР, верасьня 26 дня. у 1927 годзе.

На Барысаўскім гасьцінцы, у раёне Сьляпянкі, там, дзе зараджаецца „новы культурны Менск", пад тэрыторыю выстаўкі, адведзена 75 гектараў зямлі.

За амаль ня цэлы кілёмэтр ад канцавога пункту трамвая № 1, у кірунку Барысава, бок а бок з зялёнай цішынёю нярухлівага хваёвага гаю, вы бачыце сьмяртэльную бойку новага са старым.

Там, справа, пераможна высяцца будынкі новых клінік, далей растуць штабялі цэглы і дрэва для пабудовы Акадэміі Навук, яшчэ далей зіхаціць праменістай усьмешкай новая, добра выгаблеваная, бясконцая штакет-агарожа вялізнага стадыёну.

А зьлева тое, што перамагаецца—старое. Старое гэта—скудлычаныя, кашлатыя мяшчанскія хацёнкі, што стаяць дзе папала, ураскідку, нібы разагнаная зграя дзікіх сабак, злосна вышчараючы вочы-вокны.

Яны ведаюць, што заўтра на іх месцы будуць будавацца савецкія ўстановы—інстытут прамысловасьці, політэхнічны інстытут, інстытут соцыяльнае гігіены. І яны злосна глядзяць на шашу, на трамвай, што пракладаюцца каля іх, глядзяць на сельска-гаспадарчую выстаўку, што хутка расьце насупроць..

На тэрыторыі, што аддзелена ад шашы сеткай з дроту, то тут, то там, на шэрым фоне хмурага неба, на першы погляд, нібы выпадкова, выпаўзае з ня зусім пакрытага сьнегам грунту штук дзесяць касьцякоў зазімавалых будынін. Гэта будучыя павільёны выстаўкі. На ўсход ад іх пільнае вока бачыць—правільныя чатырохкутныя вучасткі навукова пастаўленых севазваротаў, гароды, культуры ільну, а за імі далей раскінуўся вялікі трохкутнік з маладым пладовым садам і гадавальнікам...

Якія мэты хоча дасягнуць выстаўка? Пра гэта лепш скажам даслоўным тэкстам другога параграфу „Палажэньня пра першую выстаўку сельскае гаспадаркі і прамысловасьці".

52. а) Выяўленьне ўсіх дасягненьняў у галіне соцыялістычнага разьвіцьця і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, прамысловасьці і індустрыі народнае гаспадаркі ў цэлым;

б) усёбаковае асьвятленьне становішча сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, як у цэлым, так і ў паасобных яе частках да моманту адчыненьня выстаўкі;

в) выяўленьне ўсіх дасягненьняў у галіне рэорганізацыі масавае сельскае гаспадаркі, як вынікаў самадзейнасьці шырокіх мас працоўнага сялянства Рэспублікі, на аснове творчага кооперавання, аграрных мерапрыемстваў і нацыянальнае політыкі Савецкае ўлады БССР;

г) выяўленьне ўсіх нацыянальных і бытавых асаблівасьцяй у разьвіцьці мясцовае народнае гаспадаркі;

д) выяўленьне прыродных багацьцяў Рэспублікі, ступені іх скарыстоўваньня і перспэктывы іх далейшае эксплёатацыі;

е) асьвятленьне дасягненьняў і пэрспэктыў навукова-дасьледчых работ у галіне сельскае гаспадаркі і прамысловасьці;

ж) асьвятленьне далейшых шляхоў і пэрспэктыў разьвіцьця сельскае гаспадаркі і прамысловасьці Рэспублікі з выяўленьнем умоў, якія могуць дапамагчы пашырэньню і паглыбленьню далейшага соцыялістычнага будаўніцтва Рэспублікі;

з) выяўленьне ўзораў прыкладнай работы колектыўнага і індывідуальнага характару ў галіне сельскае гаспадаркі БССР;

і) відавочнае азнаямленьне шырокіх рабочых мас Рэспублікі і іншых частак Саюзу з дасягненьнямі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці БССР, а таксама з ужываньнем навукі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці наогул;

к) правядзеньне шырокай культурна-асьветнай і агітацыйна-пропагандысцкай работы сярод рабочых мас Рэспублікі, на аснове матэрыялаў, выяўленых на выстаўцы, і

л) устанаўленьне і пашырэньне дзелавых сувязяў з іншымі рэспублікамі Саюзу, а таксама з замежнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, на аснове ўзаемнага азнаямленьня са становішчам і пэрспэктывамі разьвіцьця экспортных і імпортных магчымасьцяй...

Выстаўкі, зразумела, былі і ў старой, дарэволюцыйнай Расіі, утвараюцца яны і зараз за межамі нашага Саюзу, але выстаўка, з такою шырынёю пляну, з такой рознастайнасьцю яе галін і якая да таго-ж была-б прасякнута мэтавым адзінствам—магчыма толькі ў соцыялістычнай дзяржаве, дзе народная гаспадарка знаходзіцца ў руках рабочае клясы; такая выстаўка, зразумела, капіталістым не патрэбна. Ім патрэбна не ўстанаўленьне коордынацыі гаспадарчага організму краіны, а выстаўка для рэклямы, для магчымасьці лепшай конкурэнцыі продуктамі вытворчасьці—і толькі. Толькі для нажывы.

Маўляў у самай нікчэмненькай буржуазнай дзяржаўцы—тысячы гаспадароў-уласьнікаў, якія пануюць над народным дабром. У кожнага з такіх гаспадароў вузкая, абмежаваная спэцыяльнымі інтарэсамі аснаўнога—пэрыфэрыя гаспадаркі. Горызонт, нават, самае складанае, комбінаванае, такое гаспадаркі, ня шырокі, вузкі... і, кажучы проста, гаспадар яе, ня выходзячы з месца, бяз бінокля бачыць яе навокал. Ня тое, што ў нас, у СССР, дзе гаспадарка абагулена.

А ў нас, толькі ў аднэй частцы нашага Саюзу—Беларусі, дзе да рэволюцыі ня было ніводнага буйнага прамысловага прадпрыемства, дзе на палетках, раскіданых сярод непраходных балот і лясоў, панаваў абшарнік, дзе ў горадзе сярод нахіліўшыхся хацёнак панаваў дробны крамнік ды жаласьліва стучэў на сваім двары саматужнік,—там за якія-небудзь сем год да непазнавальнасьці зьмяніўся твар, так паглыбілася і ўзмацнілася народная гаспадарка, што для далейшага кіраўніцтва ёю патрабаваліся тысячы вучоных спэцыялістаў... а лёзунгі „дагнаць і перагнаць" і „стопроцантная колектывізацыя сельскае гаспадаркі" з жалезнай пасьлядоўнасьцю ператвараюцца ў жыцьцё.




Наша народная гаспадарка настолькі вырасла за гэтыя гады, настолькі разбуяла, што ўжо і спрактыкаванаму спэцыялістаму не ахапіць сваім вокам усю рознастайнасьць нашае адзінае соцыялістычнае гаспадаркі, не ўсачыць за тымі зьменамі, што вытвараюцца ў паасобных яе дэталях.

Спэцыялістым ВСНГБ пасьля тэорытычнага плянаваньня для таго, каб зьбегнуць памылак у будучым, трэба час-ад-часу акідваць вокам усе нашы дасягненьні, каб вачавідкі ўбачыць усё тое, што яны плянуюць у габінэтах.

Яшчэ больш патрэбна паглядзець, крытычна ацаніць, наколькі ленінскім шляхам ідзе наша прамысловасьць, у вачавідкі ўпэўніцца ў нашых дасягненьнях самому рабочаму і селяніну, які парывае са старай спадчынай і пераступае парог новага колектыўнага жыцьця.

І ўсё гэта дасьць выстаўка.

Зараз, на тэрыторыі выстаўкі, для староньніх гледачоў, нібы **„нічога няма"**, а сапраўды гэты пляц, велічынёю амаль у 1 квадратовы кілёмэтр, разьбіты на паасобныя вучасткі, выраўнены, выкарчаваны пні. На некаторых вучастках разьведзены сады, гадавальнікі, уведзены правільныя севазвароты.

Узмоцненым тэмпам работаюць навуковы, аграрны, прамысловы, мастацкі аддзелы пры дырэкцыі выстаўкі. Падрыхтоўваюцца відавочныя статыстычныя паказальнікі вынікаў практыкі, дасьледваньняў і параўнаньняў. Зьбіраюцца і як сьлед апрацоўваюцца патрэбныя экспонаты.

Ідзе мастацкі конкурс на выраб проектаў дэкоратыўнае часткі выстаўкі, да якога прыцягнуты ўсе лепшыя мастацкія сілы БССР.

І варта толькі цёпламу веснавому сонейку добра прыпячы заснуўшую зямельку, як па ёй ізноў заварушацца няўтомныя рабочыя, будаўнікі гэтае выстаўкі.

Усяго будзе пабудавана звыш 20 павільёнаў розных конструкцыйных форм, уваходная арка і помнік правадыру рабочае клясы—У. І. Леніну.

Частка павільёнаў будуецца капітальна—яны застануцца пасьля сканчэньня выстаўкі пад Навукова-Дасьледчы Інстытут.

Да выстаўкі вясною будзе пракладзены трамвайны шлях і з 15 мая ўжо павінны забегаць вагончыкі трамвая, адзваньваючы адходны сьпеў усяму старому, што вакол новай перамогі пролетарыяту яшчэ моцна скаліць зубы ў бясьсільнай злосьці...

**А. О.**

# РАБОТНІЦА І СЯЛЯНКА У БАРАЦЬБЕ ЗА СОЦЫЯЛІЗМ



Вялікая Кастрычнікауская рэволюцыя распрыгоніла жанчыну, даўшы ей у савецкай краіне роўныя з мужчынамі правы. Аднак, для таго, каб зьнішчыць рэшткі няроўнасьці між мужчынамі і жанчынамі, трэба, каб жанчына заняла роўнае з мужчынаю становішча ў вытворчасьці і ў грамадзкім жыцьці. **На нашых малюнках:** **зьверху зьлева**—комсамолка Аўгіньня Зіна, абраная членам Ленінградзкага Савету і вылучаная на пасаду дырэктара ф-кі. **Справа**—жанчына-работніца на заводзе „Пролетары“ ў Іванава-Вазьнясенску. **Ніжэй зьлева**—работніца Соня Кішчыцэр, мае 12-гадовы вытворчы стаж, мэханік, вылучэнка (завод „Чырвоны Тэкстыльшчык“, Менск); **справа**—ударніца на гуце „Пролетары“ за працай. **Унізе:** М. Аnішчанка, чл. ЦВК з 1927 году, сялянка, родам з Мазыршчыны. **Справа:** жанчына—кваліфікаваны токар, працуе на токарным варштаце найноўшае амэрыканскае конструкцыі ў інструмэнтальным цэху.



Комунары ідуць на работу.

# КОМУНА ІМЯ ЛЕНІНА*)

Нарыс СТАНІСЛАВА ІВЫ

На ганку чуваць вясёлы жаночы галасок. Раптам абарваўся. Змоўкла гутарка. Моладзь—хлопцы і дзяўчата пачалі прыглядацца. Хутка пазнаёміліся. Пачалася беглая гутарка. Моладзь—усе комсамольцы. Пачалі пра комуну. Раптам адчыніліся дзьверы і старая бабулька прашамкала:

— Як вам ня сорам! Да поўначы галаву дурыце! Ці ня „любіцца" сабраліся вы сюды? Трэ' сьці адпачываць, дзяўчата! Заўтра трэ' рана ўставаць, малаціць будзем. А вы, хлопцы, ня зводзьце іх! Ці ня было ўдзень часу наглядзецца? Марш на сена!

Дзяўчата разрагаталіся, разьвіталіся і пайшлі спаць. Мы таксама накіраваліся да пуні. Вялікі будынак бітма набіты сенам і канюшынай.

— Сена ў нас добрае. Дзесяткі соцень тон. Сенажаці заліўныя!

... Ігнат, комсамолец з комуны, расказваў: аб новых мэтодах комсамольскай работы, аб сувязі з горадам і вёскай, пытаў пра горад і ў яго гутарцы была нейкая надзвычайная зацікаўленасьць. Я доўга з ім гутарыў і не памятаю, калі заснуў. Прачнуўся. Раніца. Ігната ўжо ня было. З надворку данасіўся глухі гул малатарні і трактара. На двары пырскаў дождж. Недзе на задворках гарлапанілі пеўні, сакаталі куры. Прысады гасьцінцу насупіліся і хмура ў задуменьні прыслухоўваліся да дажджу.

Шэсьць гадзін раніцы... У комуне кіпіць праца. Няма гультаёў-абібокаў. Адны малоцяць, другія сеюць, трэція даглядаюць гаспадарку—усе за карыснай плённай работай.

Роўна год таму назад комунары ня верылі ў свае сілы. Куплялі малатарню.

— Навошта нам складаная? Хлеба многа ня будзе. Купім паўскладаную машыну. На разжываньне добра будзе!

А сёлета, калі сабралі шмат ураджаю, дык пераканаліся ў тым што на ёй ня спорыцца работа, давялося пазычыць складаную малатарню, на некалькі дзён, у суседкі-комуны „Новая Зара". Вось чаму і сьпяшаюцца хутчэй малаціць, каб не затрымаць і там малацьбу. Гудзіць малатарня. Здалёку чуваць гул трактара „Інтэрнацыял", які прыводзіць у рух машыну.

— Да сьняданьня дамалоцім?—пытае старшыня комуны.

— Дамалоцім,—у тахт гулу машын адказваюць дзесяткі галасоў моладзі.

Прыземкаватая, шырокаплечая, выносьлівая, нібы жалезная фігура старшыні комуны, яго вытрыманыя рухі і манэры, далікатны ветлівы падыход і практычнае вока гаспадара—культурніка-комунара, знайшлі надзвычайную павагу з боку ўсіх комунараў. Яго энэргічны, жывы, радасны і заўсёды вясёлы твар падлівае бадзёрасьць і запал у працу. Які-б цябе не агарнуў сум гаротнасьці, якое-б з табой ня здарылася няшчасьце, пагавары з Ансам, раскажы яму ўсё і ён тут-жа табе дасьць параду, тут-жа разгоне сум і журботнасьць.

Анса Андэрсона на Дрысеншчыне ведаюць усе. Да 1927 г. ён працаваў у Дрысенскім РВК на пасадзе загадчыка комгасу. З 1927 годзе пайшоў гаспадарыць. Арганізаваў комуну „Чырвоная Зара". У комуну ўвайшло 6 гаспадароў. Спачатку маемасьць комунараў складала ўсяго 860 руб. Было два кані, тры каровы і тры сьвіньні. З гэтага і пачалі закладаць падмурак новага, чаканага, больш сьветлага жыцьця.

У віры жыцьцёвай завірухі і сьпешкі надышоў 1928 г. Комунары падлічылі свае дасягненьні, падагулілі свой экономічны ўзрост. Ці ёсьць-жа ад колектыўнага жыцьця ды працы якія-небудзь вынікі? Ёсьць. Комуна мае 12 завадзкіх кароў, 6 добрых коняй, 13 сьвіней, касілку, конныя граблі. Засявала пад жыта 10 гектараў, пад ярыну 16 гектараў, буракоў і капусты 2 гектары, 5 гектараў вікі на корм і 3 гектары канюшыны. Амаль не даведзены да поўнай гібелі сад, плошчай у 10 гектараў, комунары агледзілі, пабялілі дрэвы, абклалі гноем, абскрэблі мох, абрэзалі гнілое суччо, прывялі ў належны парадак.

Сёлета вясной у комуну ўліваецца 6 семьяў беднякоў і батракоў. Комуна мае 18 дойных кароў, 6 падцёлкаў, будуецца абора на 45 галоў, на яе затрачваецца каля 7 тысяч рублёў. Пабудавана плодасушылка, лазьня, абсталяваны кватэры. Пры комуне організоўваецца малочная арцель. З суседняй вёскі Таболкі ў арцель уступіла ўжо 28 гаспадароў.

Штодзеннае наведваньне сялянамі комуны спрыяе стварэньню думкі: чаго даседзім, пойдзем, далучымся да комунараў! Зямля сумежная... Зажывём па-новаму!

Зьбярэм ураджай, прыбярэм гаспадарку, а тады ў комуну—так кажуць сяляне вёскі Таболкі. У дзень ураджаю адбыўся ганаровы прыём таболкаўцаў у комуну, але на ў комуну „Чырвоная Зара", бо яе зараз няма—яна стварыла новую комуну, комуну імя „Леніна". Сорак чатыры комунары далучыліся да старых, жыцьцё пацякло па-новаму, цьвёрдаму ленінскаму шляху.

У студзені месяцы 1927 году афармляецца комуна імя Леніна. Адводзіцца 150 гектараў зямлі ў былым маёнтку абшарніка Румбіна. Існаваўшая да гэтага часу ілжэ-арцель, члены якой жылі паасобку, п'янствавалі, ня цікавіліся колектыўнай справай,—рэорганізавалася. Будынкі былі даведзены да поўнага разбурэньня, гаспадарка абуцьвела, сад папсаваны, запушчаны...

*) Дрысьненскі раён, Полацкае акруг[а]

Па вёсках паплылі розныя хлусьлівыя плёткі. Кулакі і заможнікі рознымі мэтодамі стараліся спровоцыраваць комунараў.

— Зьбіраюцца ў комуну, яны, думаеце, жыць будуць?... Распадзецца! Ня будзе жыцьця, калі Іван Руткоўскі пайшоў у комуну. Гультай, абібок.—Так агітваў падкулачнік Арцём Лісоўскі супроць чырвонаармейца адпускніка Івана. З ненавісьцю глядзелі кулакі і падкулачнікі на організацыю комуны.

Цяжкія былі гадзіны спачатку. У паўразбураных будынках комунары знайшлі сотні клапоў, холад, цясноту...

Відавочны экономічны рост комуны, політычна-сьвядомая ўпартасьць комунараў стварылі вялізны аўторытэт комуны. Вакольнае сялянства пабачыла на практыцы як будуецца новае соцыялістычнае жыцьцё.

Высокая культурная апрацоўка глебы дала нечаканы ўраджай—у сярэднім амаль 1,5 тоны з гектара. Пад ярыну сёлета комуна засявала 40 гектараў. Пад азімае збожжа засеяна 30 гектараў: 25 жыта і 5 пшаніцы. Комунары набылі 23 завадзкіх каровы, 8 падцёлкаў, 2 пародзістыя жарабкі, 50 сьвіней. Усю жывёлу кармілі концэнтраванымі харчамі. Набываецца шмат неабходных сельска-гаспадарчых прылад і машын: трактар „Інтэрнацыянал“, касілка, сяўнік, 2 жніваркі і інш. Пачынае разгортвацца будаўніцтва. Будуюцца два новых дамы пад кватэры комунараў, агульная сталоўка, клюб, абсталёўваюцца старыя будынкі.

Комунары і комунаркі не адрываюцца ад культурнага жыцьця, яны выпісваюць і чытаюць газэты і часопісы „Савецкая Беларусь“, Беларуская Вёска“, „Чырвоная Полаччына“, „Комсамольская Праўда“, „Бязбожнік у станка“, „Актывісты“ і шмат іншай літаратуры.

Будуюць клюб—крыніцу культуры. На будаўніцтва затрачваюць шмат сродкаў. Набылі радыё-ўстаноўку і гучнагаварыцель. З голу ў год працуюць дзіцячыя ясьлі.

Комунары даўно пакончылі з рэлігійным дурманам. У комуне няма веруючых. Стары, малы і дарослы—усе заўзятыя бязбожнікі. Яны кінулі рэлігію не пад прымусам, не таму што перайшлі ў комуну, а таму што ясна зразумелі, і толькі ў комуне, што рэлігія непатрэбна. Верыць у гнілы фанатызм, падтрымліваць тое, што рабілася стагодзьдзі назад, нямэтазгодна. Сіла, энэргія, энтузіязм, творчасьць, соцыялістычнае спаборніцтва—вось што зьмяніла гнілую рэлігію ў комуне. Апрача таго, што комунары выхоўваюць самі сябе культурна, яны разам з гэтым ператвараюць і сваю ідэолёгію, нішчаць перажыткі старасьветчыны. Вось што кажа жывы факт. У комуну ў 1927 г. накіравалі бяспрытульнага хлопчыка Міхася Стоніса. Сам уцякач. У час імпэрыялістычнай вайны бацькі, а разам з імі і Міхась папалі ў далёкую Сібір. Настаў час голаду, бацькі Міхася памерлі, ён пераехаў у Беларусь. Гады голаду прымусілі яго зрабіцца бяспрытульным і ўрэшце папасьці ў комуну.

У комуну яго прывялі чорнага, замурзанага. Пераапранулі, накармілі—але Міхась адчуў сябе не ў сваіх санёх, не на волі, не сярод натоўпу такіх-жа як ён. Увесь час хадзіў пануры, сумны. Зараз, гляньце на сучаснага Міхася-комунара і параўнайце з былым. Гэта новы Міхась, гэта ня той бяспрытульны Міхась.

Быў час, дапамагала дзяржава комуне, а сёньня комуна дапамагае дзяржаве. Сёлета звыш 3000 *кг* сьвежага ўмалоту—першага снопу, комунары здалі дзяржаве. Звыш 3000 *кг*—гэта толькі пачатак. Усяго здала комуна больш шаснаццаці тон жыта, пяцьдесят тон аўса. Контрактавала 6 тон яблык, 3 вагоны бульбы ды вагон капусты. Гэта ўсё праз коопэрацыю—дзяржаве.

Галоўнае, што сёлета комуна запісала ў сваю гісторыю,—гэта далучэньне да комуны „Чырвоная зара“ сумленных сялян беднякоў з трох вёсак: Свольня, Пятоліна і Таболкі.

Больш тысячы гектараў зямлі маюць ленінцы.

Жыцьцё не стаіць на месцы, не чакае. На першы погляд здавалася-б, ціха, ледзь прыметна пасоўваецца наперад. Варта прыглядзіцца, акунуцца з галавою ў вір жыцьця ды працы і—убачыш нястрыманы разьбег энтузіязму мас. Б'е, крынічыць ініцыятыва мас, і непамерна вялікі разьбег гэтае ініцыятывы зьмятае з свайго шляху ўсё тое, што перашкаджае волі працоўных.

Сёньня крышыцца, нішчыцца нашчэнт тое, што ўчора жыло і скарыстоўвалася! Сёньня яно непатрэбна і павольна адыходзе ў гісторыю! Сёньня адшукваецца новая, нязьведанае, лепшае! Шпаркім разгонам уперад, толькі ўперад—назад ні кроку. Да берагоў новага жыцьця, да берагоў соцыялістычнага жыцьця.



## У КОМУНЕ ІМЯ тав. ФРУНЗЭ



Комунары за агульным абедам.




З успамінаў М. БЯЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА

Малюнкі М. Б.

ПАД Вэрдэнам, у Шампані, каля Суасону і каля Лансу грымелі гарматы, ірваліся знарады і гранаты, лілася чалавечая кроў.

Немцы моцна націскалі. Гіндэнбург і Людэндорф, баючыся, што хутка ўступіцца ў вайну Амэрыка і, скарыстоўваючы шчасьлівую для іх сітуацыю на расійскім фронце, дзе царская армія ня мела ні знарадаў, ні зброі і была амаль небаяздольнай,—Гіндэнбург і Людэндорф імкнуліся зрабіць рашучы ўдар саюзьнікам на заходнім фронце і гэтым хутчэй канчыць вайну на сваю карысьць.

Трэба было сьпяшацца. Галодная, адрэзаная ад усяго сьвету, Нямеччына даядала свае апошнія крошкі. Ваяваць рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. А там, у глыбінях нямецкага народу ўжо расло абурэньне, якое пакуль што яшчэ стрымлівалася фэльдфэбельскім кулаком і афіцэрскім стэкам.

На заходнім фронце, поруч з францускімі, ангельскімі і партугальскімі войскамі паміралі і салдаты расійскага экспэдыцыйнага корпусу. Сорак тысяч адправіў іх царскі ўрад у 1916 г. з Расіі ў Францыю і на Балканы. Яны павінны былі тут, далёка ад радзімы, паміраць за тое, каб багацьці Эльзасу і Лётарынгіі эксплёатаваліся не нямецкімі, а францускімі капіталістымі. Яны павінны былі тут, у „культурнай“ Эўропе паказваць сабою „магутнасьць расійскае імпэратарскае арміі“. Яны павінны былі ў выпадку, калі добра скончыцца вайна, заняць Канстантынопаль і быць яго першым гарнізонам.

А ў нагароду за „верную службу“, за тысячы чалавечых жыцьцяў, застаўленых на палёх боек, палком былі паабяцаны ганаровыя назвы: першаму палку назва лейб-гвардыі парыскага, другому палку назва лейб-гвардыі канстантынопольскага.

Але ўсё гэта пасьля. А пакуль што... салдатаў каралі за малюсенькую правінку, саджалі пад арышт, іншы раз ссылалі на катаржныя работы. І гэта ня лічачы шматлікіх баёў, у якіх загінула так многа расійскіх пролетараў і сялян у славу францускіх і ангельскіх імпэрыялістых. І гэта ня лічачы соцень і соцень калек, што пааставаліся бяз рук і бяз ног, што пааставаліся сьляпымі, што да рэшты страцілі свае здароўе.

Цяжкае было становішча расійскага салдата ў Францыі. З болем думаў ён пра пакінутую ў Расіі жонку, дзяцей, пра разбураную сваю гаспадарку... І ўсім сэрцам прагнуўся назад.

А вайна цягнулася сваёю чаргою. Вайна крывавая, бязьлітасная...

* * *

У Парыжы, за два крокі ад Ялісейскіх палёў, у раскошным, спэцыяльна на гэта нанятым, готэлі разьмясьцілася тылавое кіраўніцтва расійскага экспэдыцыйнага корпусу на францускім фронце.

Генэралы гвардыі, палкоўнікі і капітаны, маладыя бязвусыя паручнікі—„матчыны сынкі“ графскіх і баронскіх прозьвішчаў, у золатам і срэбрам расьпісаных мундзірах, у шпорах і ў ад'ютанцкіх эксельбантах, запаўнялі зранку да вечара готэльныя залі, нешта пісалі, пра нешта гаманілі па тэлефону.

Але менш за ўсё думалі тут пра вайну. На іподроме Отэйля разыгрываецца прыз Парыжу, у казіно „Фолі Бержэр“ выступае красуня - гішпанка, кравец Фурньe з Вандамскае плошчы атрымаў самыя сьвежыя модныя часопісі—апошні крык Лёндону, шэдэўр мужчынскае элегантнасьці...

Хіба гэта ня ў тысячу раз цікавей за нейкія там бойкі каля Шампані і каля Суасону, хіба гэта не важней за нейкія там заявы салдат пра тое, што ім ня выдалі пэнсіі, віна, тытуну, пра іхнае дрэннае абмундзіраваньне?

А калі і ўспаміналі тут пра вайну, дык толькі тады, калі паўставала пытаньне аб узнагародах, годнасьці, пытаньне пра атрыманьне францускага ваеннага крыжа ці ордэна ганаровага легіёна. Але і на гэта зусім не абавязкова было прысутнічаць у брудных акопах, біцца з немцамі, ліць сваю кроў... Сяброўскія адносіны з каханкаю генэрала Ікса хутчэй давалі жаданую мэту, як героізм на фронце, як параненьне і нават сама сьмерць у баёх.

Так цякло жыцьцё. Адны—салдаты і дробная афіцэрская сошка—гінулі бяссэнсна ў траншэях, мучыліся ад цяжкіх ран у шпіталях, жылі дзікімі зьвярамі—зарыўшыся ў зямлю ад кулямётных куль і гарматных знарадаў. Другія—„вяршкі грамады“, князі і бароны, гвардыі палкоўнікі і капітаны—забаўляліся ў тыле, у Парыжы—у яго карчмох, шантанах, ігральных дамох.

Старая і звычайная гісторыя ў краінах, дзе пануе капіталізм.

* * *

— Усім, усім, усім... царская ўлада скінута ў Расіі, арганізаваны часовы ўрад!—разносіла радыё па ўсім сьвеце першыя весткі пра лютаўскую рэволюцыю.

І далей падрабязнасьці для заспакаеньня чужаземных капіталістых:

— Ва ўладзе Мілюкоў, Гучкоў, князь Львоў, Керанскі... вернасьць царскім дагаваром... поўнае прызнаньне ўсіх даўгоў... вайна супроць немцаў на баку саюзьнікаў да пераможнага канца.

Розна прынялі вестку на Захадзе пра тое, што скінуты царскі рэжым. Француская, а разам з ёю і ўся буйная буржуазія „саюзьнікаў“ пасьля тэлеграмы Мілюкова (тады міністра чужаземных спраў часовага ўраду) была ў вогуле, ва ўсякім выпадку на першы час, здаволена пераваротам.

У яе-ж задачы ў той час уваходзіла разьбіць нямецкі імпэрыялізм з тым, каб самой узяцца за эксплёатацыю колёній і Эўропы. Цесная сваяцкая сувязь расійскага царскага дому з імпэратарскім домам Нямеччыны была вельмі падазрона для францускае буржуазіі. Таму-та, калі ў Расіі прыйшла да ўлады буржуазія расійская, француская і наогул „саюзная“ буржуазія гадавала надзеі на больш энэргічныя падзеі з боку Расіі, на яшчэ больш цяжкія ахвяры з боку расійскага народу для „агульнае справы“.

Была тут і другая гнюсьненькая думка, што прымушала буржуазію Захаду радасна „вітаць“ лютаўскую рэволюцыю. Расія слабне ад рэволюцыйных уздрыгаў, яна будзе больш згаворчываю, калі трэба будзе дзяліць ваенную здабычу, яе лёгка будзе ўзяць у рукі і эксплёатаваць як колёнію...

Дробная француская буржуазія таксама нічога ня мела супроць падзеньня імпэратарскае кароны з галавы Мікалая апошняга. „Новая“ Расія будзе весьці вайну „да пераможнага канца“, яна - гэтае самае галоўнае—прызнае ўсе даўгі старога царскага ўраду. А гэта, як для дробнае, так і для буйнае буржуазіі было самае галоўнае. Даўно-ж вядома, што буржуа вельмі „лібэральны“, калі нішто не парушае яго інтарэсаў. Даўно-ж вядома, што буржуа ахвотна робіцца нават „рэволюцыянэрам“, калі гэтая „рэволюцыйнасьць“ можа даць яму сякую-такую карысьць.

Прапечаны буржуазны палітык Мілюкоў вельмі добра ўлічыў псыхолёгію свае замежнае кліентуры. Яго тэлеграма „ўсім, усім, усім“ зусім заспакоіла крышку перапужаных капіталістых.

Вядома, ці варта гаварыць, што кіраўнічая верхавінка расійскага экспэдыцыйнага корпусу ў Францыі і на Балканах—за вельмі маленькім выключэньнем—зразу аднеслася зусім адмоўна да лютаўскага перавароту.

Гэта і зразумела. На кіраўнічыя пасады за мяжою царскі ўрад прызначаў найбольш верных сваіх стаўленьнікаў—чорнасоценцаў, монархістаў, багатых абшарнікаў ці буйных чыноўнікаў, што цесна зьвязаны з „царскім прастолам".

Для іх, для гэтых людзей, адыход цара ад улады азначаў канец іх царству, канец буйным прыбыткам і „цёпленькім мясьцінкам", якія яны з гэтага часу павінны будуць дзяліць з якімінебудь лібэральнікамі-кадэтамі і іншымі палітычнымі валацужнікамі.

А ўлада афіцэрства над салдатам—хіба яна не пахісьнецца самым фактам рэвалюцыйнага перавароту?

Вестві, што прыходзілі з Расіі—організацыя саветаў салдацкіх дэпутатаў, адмен чынапавагі і шмат што іншае,—бясспрэчна гаварылі пра гэта.

— Расія Расіяй, а мы ў Францыі самі сабою,—вырашылі ў Парыжы царскія генэралы. І яны выдалі—праўда, не афіцыйны, але ад гэтага ня менш рашучы—загад да падначаленых сабе афіцэраў нічога не расказваць салдатам расійскага экспэдыцыйнага корпусу пра вялікія падзеі, што адбываюцца ў Расіі.

* * *

А бойкі на францускім фронце ня спыняліся. Таксама з грозным сьвістам насіліся знарады, таксама аглушальна рваліся бомбы, таксама шырокаю рэчкаю лілася чалавечая кроў.

Гадка было на душы ў расійскіх салдат, што волею вайны былі закінуты з глыбіні расійскіх і беларускіх сёл у Францыю.

— Дахаты-б,—думалі нудна салдаты,—да жонкі, да дзяцей, да прывычнае спакойнае работы.

І вось аднойчы і да іх—пакінутых, забытых, ашуканых—дакацілася радасная, шчасьлівая вестка.

— Мікола капут! Мікола капут!—сіліліся растлумачыць францускія салдаты расійскім сэнс падзей, што адбываюцца у Расіі.—У Расіі рэволюцыя!

Паклікалі перакладчыка, распыталі як сьлед, доўга, не даючы веры сваім вачом разглядалі сьвежыя францускія газэты.

А як зразумелі—шалёная радасьць ахапіла ўсіх.

— Браткі, таварышы!—крычалі салдаты.—Рэволюцыя... Мікалашкі няма... Значыць канец вайне, па хатах таварышы!..

Паводле ўяўленьня ўсіх салдат расійскага экспэдыцыйнага корпусу рэволюцыя значыла канец імпэрыялістычнай вайне, зварот на радзіму, зямлю, сапраўдную волю.

Але ня так думалі імпэрыялістыя, ня так вырашалі Мілюковы і Керанскія, не на тое разьлічвала ваеннае камандваньне экспэдыцыйнага корпусу

* * *

Хаваць больш ад салдат факт лютаўскага перавароту няма магчымасьці. Расійскія часьці адводзяцца ў тыл, абіраюцца саветы салдацкіх дэпутатаў, пачынаецца агітацыя за вайну, за змаганьне на баку саюзьнікаў „да пераможнага канца".

Мітынгі, выступленьні керанскіх камісараў, што спэцыяльна для гэтае мэты прыехалі з Рассіі...

— Рэволюцыйная краіна не парушыць дагавароў!—расьпінаюцца гэтыя камісары.—Будзем змагацца супроць немцаў да „пераможнага канца", будзем абараняць рэволюцыю.

— К чорту вайну!—крычалі салдаты.—Дахаты, дахаты вязеце нас!

— Зямлю абшарніцкую дзяліць трэба, а яны тут пра вайну прастарэкуюць!—абураліся другія.

— Далоў вайну! Ідзеце самі ваяваць з немцамі!

Пасьля курцінскае паўстаньне... Дванаццаць тысяч расійскіх салдат запёрліся ў курцінскім лягеры, адмовіліся ісьці на фронт, адмовіліся здаць зброю.

У цэнтры капіталістычнае краіны, яшчэ да кастрычніцкага перавароту ў Расіі, на пляцы ваеннага лягеру Ля-Курцін віхаўся чырвоны сьцяг, моцна і сьмела тысячма галасоў сьпяваўся Інтэрнацыянал.

Грымелі гарматы, сакаталі кулямёты... адчыненым паўстаньнем дамагаліся расійскія салдаты ва Францыі свайго права на жыцьцё, на зварот дахаты, дзе рыхтаваўся падзел абшарніцкае зямлі, дзе ў муках нараджаўся Кастрычнік.



Але ня толькі за права на зварот дахаты змагаліся „курцінцы". Чырвоны сьцяг, што палыхаў па курцінскім пляцы, гукі Інтэрнацыяналу, што магутнаю хваляю ірваліся да неба, клікалі і салдат францускіх, салдат ангельскіх і салдат нямецкіх канчаць імпэрыялістычную вайну, пачынаць вайну грамадзянскую.

„Курцінцы", іх кіраўнікі клікалі сусьветны пролетарыят да клясавага змаганьня, клікалі сусьветны пролетарыят да тады яшчэ і ў Расіі не народжанага Кастрычніка.

Голасу „курцінцаў" не пачулі. Ён быў задушаны ваеншчынаю, што панавала ў той час ва Францыі, ён ня быў падтрыманы тады рабочаю клясаю Францыі, якая—мобілізаваная на фронце і ў тылу—яшчэ ня бачыла ясна свае рэволюцыйнае дарогі.

Паўтары тысячы „курцінцаў" загінула ад куль і знарадаў курцінскіх усьміральнікаў. Другія паўтары тысячы аказаліся параненымі і пакалечанымі.

Пасьля пачалася расправа. Расстрэл, крэпасьць, ссылка на далёкія астравы для кіраўнікоў. Прымусовыя астрожныя работы ў Афрыцы, і ва Францыі для рэшты.

Так кончылася гэтая, можа і ня зусім удалая, але героічная курцінская эпопэя. Так адзначылі расійскую лютаўскую рэволюцыю ва Францыі расійскія салдаты экспэдыцыйнага корпусу.

Гэта было 2—3 верасьня 1917 году... Бадай за два месяцы да вялікага кастрычніцкага перавароту ў Расіі.

* * *

Згадзіўшы шмат год, аўтару гэтых радкоў, давялося зноў пабыць у Курціне, давялося зноў праехаць па тых мясьцінах дзе некалі назолку кастрычніцкае рэволюцыі так буйна цякла кроў расійскіх салдат.

— Гэта было прыгожае відовішча,—казаў мне адзін з рабочых, якога я выпадкова сустрэў у непагодны восеньскі вечар у адной з кавярань гораду.—Гэтыя расійцы ў Курціне не хацелі больш паміраць на фронце, яны як героі біліся тады за сваю свабоду... Я тады па загаду свайго начальства сядзеў каля кулямётаў у другой лініі акопаў, якія цесным колцам акружалі Курцін.

І падумаўшы крыху, ён, як-бы просячы прабачэньня за сваю даўнейшую памылку, дадаў:

— Цёмныя мы яшчэ тады былі, дрэнна разьбіраліся ў політыцы. Цяпер і я ўжо тры гады як комуністы...

„Курцінцаў" памятаюць, „курцінцаў" любяць ва Францыі, у яе рабочых масах. Кроў, пралітая „курцінцамі" ў Курціне дае цяпер свае плады...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Магутным, цьвёрдым поступам надыходзіў Чырвоны Кастрычнік. Ён нёс сьмерць капіталізму ў Расіі, ён нёс сапраўдную свабоду пролетару і селяніну.

Ён быў папярэднікам, радасным папярэднікам будучага сусьветнага Кастрычніка.



# ЗА МЯЖОЙ





**Уверсе:** Спуск новага крэйсэра „Аугуста“ у Амэрыцы. **Ніжэй:** Дэманстрацыя жанчын у дзень незалежнасьці Індыі ў Бамбеі. **Яшчэ ніжэй:** Выбары ў парлямант у Японіі. Перадвыбарчыя плякаты.

**З правага боку ўверсе:** Проект будынку для дэпартаманту паліцыі ў Нью-Ёрку. **Ніжэй:** Броняносец на ваеннай выстаўцы ў Токіё. **Яшчэ ніжэй:** Будынак ЦК Нямецкай компартыі ў Бэрліне, заняты паліцыяй. На здымках: Дом імя Карла Лібкнэхта ў момант абкружэньня паліцыяй і грузавік з паліцэйскімі каля дому імя Карла Лібкнэхта.











# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



Новы варштат фірмы Крупа, які настаўлены на заводзе „Красный гвоздильщик“ у Ленінградзе. Продукцыйнасьць яго ў 5 разоў большая, чымся ў варштатаў, якія ўжываліся дагэтуль.



Ткачыха Дзнісенка, вылучавая на пасаду дырэктара фабрыкі „Пролетарка“ ў Цьверы (зьлева).



Тав. Арыкава, член ЦВК і старшыня Вярхоўнага суду Казакстану.



Тав. Катлінская, вылучэнка, член ЦВК БССР.

Зьнізу—швэйніца за машынкаю (швальная арцель у мястэчку Койданава, на Меншчыне).





Як неўхільны вынік соцыялістычнае рэконструкцыі нашае сельскае гаспадаркі, ідзе поўная тэхнічная яе рэконструкцыя. У сувязі з гэтым надзвычайна важнае значэньне набывае пытаньне аб хэмічных угнаеньнях. На малюнку справа—новыя калійныя распрацоўкі ў Солікамску.—Агульны від на шахтныя копры з поўдня.



Перад пачаткам слўбы.

Зьлева: Сяваркі, гатовыя да адпраўкі ў колгасы (Кісўскі завод „Красный пахарь“). Справа ударніца на заводзе „Красный пахарь“ за зборкаю сельска-гаспадарчых машын. Ніжэй—аўтоматычны апарат, які бярэ ўзоры насеньня пры нагрузцы праз элеватар. Выпаходца т. А. М. Коласаў падарыў сваю вынаходку ўраду СССР.

Наша вынаходніцтва.

Унізе ўсярэдзіне—прапрацоўка рабочых рысункаў у кутку рабочага вынаходзтва на Маскоўскім тормазным заводзе. Унізе справа—вынаходцам А. І. Мэеравым сконструявана сыстэма прылад для геолёгічных досьледаў, пры дапамозе токаў высокае частасьці. Паводле водгукаў спэцыялістых, гэты апарат дае магчымасьць вызначыць контуры, глыбіню пакладаў і магутнасьць руднага цела. Гэтай вясною апарат Мэерава будзе ўжыты на практыцы адным з трастаў СССР. На здымку агульны від сыстэмы апаратаў тав. Мэерава.







Вытворчасьць савецкіх радыёпрыемнікаў на Маскоўскім электрамэханічным заводзе „Мэмза“.





# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ





Чырвоная армія ў аграпаходзе. Зьверху, зьлева—чырвонаармеец дапамагае колгасьніку; справа—курсанты і камандзіры АБВШ разам з сілавым актывам у хаце-чытальні (в. Макаўчыцы, Койданаўскага раёну). Унізе,—гутарка з селянінам. Зьлева—селянін дзякуе за тлумачэньні (в. Нядрэйкі, Заслаўшчына).



У мястэчку Крупкі (Аршаншчына) у клюбе адбыўся сход, на якім працоўныя пастанавілі аддаць у фонд індустрыялізацыі срэбраныя і залатыя каштоўнасьці (крыжыкі, пярсьцёнкі, грошы), а таксама і непатрэбныя каляровыя мэталі (падсьвечнікі, самавары і г. д.).

Бухгальтары перад адпраўкай іх саюзам саўгандальслужачых у колгасы для ўзмацненьня кадраў колгасных рахункавых працаўнікоў у часе агітаблёту.





Мінула гадавіна з дня атрыманьня заводам „Бальшавік" ордэну Працоўнага Чырвонага Сьцягу. Да гэтае гадавіны прыстасавана сьвята пераходу заводу на сямігадзінны рабочы дзень. На фото дырэктар заводу „Бальшавік" робіць даклад аб працы заводу.



У Менск прыляцеў самалёт „Все в Осоавиахим", пад кіраўніцтвам лётніка Ул. І. Кізілава і мэханіка А. М. Куракіна. ТДА-авіяхэм арганізаваў дармовыя палёты для працоўных, па выйгрышах усесаюзнай лётарэі ТДА-авіяхэму.





Конфэрэнцыя ўдарных брыгад у Менску. На фото зьверху: рабочы заводу „Комунар" т. Лазавік рапартуе конфэрэнцыі пра становішча заводу. ( права зьверху: Гурэвіч, Гэй, Рыжоў сярод групы рабочых заводу „Чырвоны Кастрычнік", якія падалі заявы аб уступленьні ў партыю Ніжэй—слухаюць рап"рт заводаў.

У Талочыне, Аршанскае акруті, адбываўся тыр: ж пазыкі ўзмацненьня сялянскае гаспадаркі. На фото: справа—тыражная камісія перад пачаткам тыражу; унізе: зьлева нарада сялянделегатаў перад пачаткам тыражу; справа: рэгістрацыя дэлегатаў-сялян, якія прыехалі на тыраж.







# Кніжная вітрына

**Л. Маліноўскі—Жанчына і абарона.** БДВ. Менск, 1929 г. 32 стар. Цана 5 к.

Небясьпека будучай вайны ўвесь час вісіць над Савецкай краінай. Гэта вайна будзе вайной масавай і забярэ на франты




мужчын куды больш, чым мінулая імпэрыялістычная вайна. Бязумоўна, будучая вайна амаль зьнішчыць межы паміж фронтам і тылам, бо авіацыя, якая разьвіваецца з кожным годам, зможа паставіць самы аддалёны ад фронту вучастак пад пагрозу нападу. Гэтыя асаблівасьці будучай вайны ўскладаюць на плечы жанчыны цэлы шэраг новых абавязкаў, да выкананьня якіх работніцы і сялянцы Савецкага Саюзу трэба рыхтавацца яшчэ ў мірны час. Пра шляхі і спосабы такой падрыхтоўкі і гаворыць гэтая невялічкая кніжка.

**С. Алымаў.—У атляснай турме** (аповесьць з кітайскага жыцьця). „Бібліотэка работніцы і сялянкі". БДВ. Менск, 1929 г. 48 стар. Цана 15 кап.

У гэтай аповесьці паказана жыцьцё кітайскае дзяўчынкі Та-цы, якую бацькі-беднякі прадалі ў дом распусты.

Доўгі час яна церпіць моўчкі зьдзекі гаспадара і гасьцей. Церпіць да таго часу, пакуль не даведваецца пра рэволюцыйны рух. У часе паўстаньня яна вырываецца з няволі і становіцца ў шэрагі барацьбітоў за вызваленьне. Сьмела і адважна ідзе яна на спатканьне новаму жыцьцю.

Ня гледзячы на ня зусім удалы пераклад, кніжка з вялікай цікавасьцю будзе прачытана чытачом.

**„Беларускія народныя песьні"** Белдзяржвыдавецтва. Ноты з словамі. Цана паасобніка 15—20 кап.

БДВ выпусьціла на рынак шэраг беларускіх народных сьпеваў у гармонізацыі композытараў А. Грэчанінава, Іпалітава-Іванова, М. Равенскага, А. Туранкова і інш. У вышаўшых выпусках маюцца наступныя творы для мешанага хору: „А ды ня пыл", „Цяпер Купала", „Ня стой, каліна", „Ой, з-пад лесу, лесу цёмнага". Для сольнага выкананьня з акомпанімэнтам фортэп'яна пакуль вышлі: „Ляцела зязюля", „Ой, ты белая бяроза", „Прылецелі гусі".

**В. Мойрава—Работніца будуй грамадзкае харчаваньне.**

БДВ. Менск, 1930 г. 54 стар. Цана 15 к.

Невялічкая кніжачка Мойравай, былога дырэктара Усесаюзнага Т-ва „Нарпит", дае адказы на ўсе асноўныя пытаньні ў галіне арганізацыі і вядзеньня грамадзкага харчаваньня. Напісаная зразумелай мовай яна пераконвае чытача, у першую чаргу жанчыну работніцу, у канечнай патрэбе карэннае перабудовы хатняе гаспадаркі на колектыўных асновах.

Цэлы шэраг практычных паказаньняў, дэталёвае апісаньне задач камісій дапамогі, апісаньне работы ўзорных сталовак і фабрык-кухань робяць гэту кніжку карысным падарункам да „жаночага дня".

**Т. Аўчыньнікаў—Як організаваць соцыялістычнае спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы.**

БДВ. Менск, 1929 г. 61 стар. Ц. 10 к.

Адным з важных фактараў нашага будаўніцтва зьяўляецца магутны вытворчы




пад'ём працоўных мас—соцыялістычнае спаборніцтва.

Соцыялістычнае „спаборніцтва ёсьць комуністычны мэтод будаўніцтва соцыялізму на аснове найбольшай самадзейнасьці мільённых мас працоўных" (Сталін).

Разгортваньне соцспаборніцтва ў сельскай гаспадарцы ёсьць адна з самых асноўных важнейшых задач сучаснасьці, найбольш жыцьцёвы шлях, спосаб з посьпехам змагацца за соцыялістычную перабудову вёскі.

Як раз організацыі соцспаборніцтва ва ўмовах сельскае гаспадаркі і прысьвечана брошура Аўчыньнікава. Чытач знойдзе тут досыць поўны на ўсе цікавячыя яго пытаньні адказ.

## ГУМАР ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**Як выглядае „Свабода" рабоча-сялянскага друку для:**

чытача-працоўнага,



рэдактара,



журналістага.



(„Маланка")


Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва

Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# КНІЖКА-ПОШТАЙ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

— ВЫСЫЛАЕ ЎСЕ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ, ЯЎРЭЙСКАЙ, РАСІЙСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, ЛІТОЎСКАЙ, ЛАТЫСКАЙ МОВАХ. . . . . . . . . .

— ВЫКОНВАЕ ЎСЕ ЗАКАЗЫ НА КНІГІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА НА КНІЖНЫХ СКЛАДАХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, НА ДРУГІ ДЗЕНЬ. . . . . . . .

— ДАЕ 10% СКІДКІ ШКОЛАМ, НАРДОМАМ, БІБЛІОТЭКАМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ПРЫ КОЛЕКТЫЎНАЙ ВЫПІСЦЫ. . . . . . . . . . .

— ПРЫ ПЕРАСЫЛЦЫ РАЗАМ З ЗАКАЗАМ УСІХ ГРОШАЙ—ПЕРАСЫЛКУ—„КНІЖКА—ПОШТАЙ"—БЯРЭ НА СВОЙ КОШТ. . . . . . . .

— НА ЗАКАЗЫ ДА 1 РУБЛЯ АБАВЯЗКОВА РАЗАМ З ЗАКАЗАМ ВЫСЫЛАЮЦЦА ГРОШЫ, НА ЗАКАЗЫ ЗВЫШ 1 РУБЛЯ ТРЭБА ПРЫСЫЛАЦЬ 25% КАШТОЎНАСЬЦІ ЗАКАЗУ. . . . . . . . . . . . . .

— „КНІЖКА-ПОШТАЙ"—ЗАРАЗ-ЖА АДКАЗВАЕ НА ЎСЕ ЗАПЫТАНЬНІ АБ НОВЫХ, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ, КНІЖКАХ. . . . . . . . . . . . . .

**ЗАКАЗЫ ПРЫСЫЛАЙЦЕ ПА АДРАСУ:**
**МЕНСК, БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА**
**КНІЖКА—ПОШТАЙ**

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

**Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ"**

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ"

**ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ**

**ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ
Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гуморэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год**

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | — |
| На паўгода | 1 руб. | 50 кап. |
| На 3 месяцы | — | 75 кап. |

**Цана асобнага нумару 15 кап.**



**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

**Часопісь „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выдав. „Правда“, чыгуначных кіёсках, пашт. кіёсках і ўсіх газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР**